Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ
САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА
САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР


5 ЖНІЎНЯ 1929 г.

№ 8 (67)

V-ты год выданьня



ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929 г.

# ЗЬМЕСТ.

## 1. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра рэвізію раённых зямельных камісій.

*Акруговым зямельным камісіям.*

Перагляд Асобаю Калегіяй Вышэйшага Кантролю абскарджаных спраў раённых зямельных камісій і выбарачная праверка іх работы на месцы ў рэвізійным парадку высьвятляюць наяўнасьць у іх рабоце шэрагу недахопаў. Да галоўных з іх адносяцца памылкі пры вырашэньні паасобных зямельных спраў, няправільнае спагнаньне судовых збораў, цеганіна пры разглядзе спраў і пры выкананьні набыўшых законную сілу рашэньняў.

Наяўнасьць недахопаў у рабоце раённых зямельных камісій тлумачыцца, галоўным чынам, адарванасьцю акруговых камісій ад раённых. Акруговыя зямельныя камісіі абмяжоўваюцца разглядам скаргаў на рашэньні раённых зямельных камісій і пакідаюць іх бяз жывога інструктаваньня на месцы.

У мінулым справаздачным годзе за час з 1 кастрычніка 1927 г. да 1 кастрычніка 1928 г. акруговыя зямельныя камісіі абрэвізавалі толькі 34% раённых камісій. Бабруйская-ж, Магілеўская і Полацкая акруговыя зямельныя камісіі не абрэвізавалі ніводнай раённай, што зьяўляецца зусім недапушчальным.

Між тым трэба мець на ўвазе, што работа раённых зямельных камісій патрабуе сталага інструктаваньня на месцы, бо толькі 26% іх рашэньняў паступаюць па скаргах на разгляд акруговай зямельнай камісіі. Усе іншыя неабскарджаныя рашэньні раённых камісій (74%) могуць быць праверaны на месцы толькі ў рэвізійным парадку. Практыка паказвае, што адсутнасьць скаргаў яшчэ ня сьведчыць аб правільнасьці і мэтазгоднасьці рашэньня і непарушэньні ім зямельнай палітыкі і закону. Разам з тым, толькі пры рэвізіі можна высьветліць, ці правільна вядзе раённая зямельная камісія справаводзтва, ці не дапушчае яна цеганіны пры вырашэньні паасобных спраў і выкананьні рашэньняў, а таксама, ці правільна спаганяе судовыя пошліны і зборы.

Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю, улічваючы вельмі важнае значэньне сталай сувязі паміж акруговаю і раённымі зямельнымі камісіямі 29 сьнежня 1928 г. за № 4624, запрапанавала акруговым зямельным камісіям правесьці інструктаваньне і праверку работы раённых зямельных камісій і прыслаць у Асобую Калегію копіі сваіх рэвізійных актаў і загадаў аб зьнішчэньні заўважаных недахопаў. Пакуль што паступіла 7 актаў рэвізіі, праведзенай у бягучым аперацыйным годзе: 1—ад Мазырскай Акруговай Зямельнай Камісіі, 1—ад Менскай і 5—ад Аршанскай.

Народны Камісарыят Земляробства рашуча прапануе акруговым зямельным камісіям зьвярнуць увагу на інструктаваньне і рэвізію раённых зямельных камісій. Рэвізія павінна рабіцца згодна разасланай праграмы, прычым у кожным раёне трэба таксама праверыць работу

суду пры сельскім савеце. Дакладнае вывучэньне работы гэтых судоў павінна даць матэрыялы для справаздачы Ураду аб іх рабоце згодна пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 1 верасьня 1928 г. (З. З. БССР 1928 г. № 25, арт. 244). Копіі рэвізійных актаў, загадаў пра зьнішчэньне заўважаных недахопаў і матарыялаў пра работу сельскіх судоў у галіне разгляду зямельных спраў павінны быць прысланы ў Асобую Калегію не пазьней 1 кастрычніка гэтага году.

Народны Камісар Земляробства БССР *П. Рачыцкі.*

Старшыня Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю *І. Зыбко.*

20 чэрвеня 1929 г.
№ 9.

---

## 2. Інструкцыя народных камісарыятаў Юстыцыі і Працы БССР

### пра парадак ужываньня правіл пра прымірыцельна-пасрэдніцкі і судовы разгляд працоўных канфліктаў.

Народныя камісарыяты Юстыцыі і Працы лічаць патрэбным даць наступныя кіруючыя паказаньні па пытаньнях, высунутых практыкай у зьвязку з ужываньнем правіл пра прымірыцельна-пасрэдніцкі і судовы разгляд працоўных канфліктаў.

1. Бясспрэчны парадак спагнаньня з дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў заработнае платы па разьліковых кніжках, устанаўленьне якога прадугледжваецца п. „б“ арт. 4 пастановы ЦВК і СНК СССР „Пра зацьверджаньне правіл аб прымірыцельна-пасрэдніцкім і судовым разглядзе працоўных канфліктаў“ (З. З. СССР 1928 г., № 56, арт. 494), у БССР устаноўлен артыкулам 244 ГПК (З. З. БССР 1929 г., № 4, паст. 20, п. IX).

2. Як паказвае практыка, бываюць часта выпадкі няправільнага вырашэньня ў працоўных сэсіях працоўных канфліктаў, што выклікае неабходнасьць правядзеньня з боку пракуратуры рашучага нагляду за вырашэньнем паказаных спраў. Гэты нагляд трэба ажыцьцяўляць праз больш поўны ўдзел пракуратуры ў рабоце касацыйных інстанцый па ўсіх працоўных справах. Па найбольш сур'ёзных справах пракуратура павінна браць удзел таксама і ў рабоце суду 1-й інстанцыі.

3. Аднэй з прычын няправільнага вырашэньня працоўных канфліктаў зьяўляецца недастатковае веданьне працоўнага заканадаўства як органамі, якія гэтыя канфлікты вырашаюць, так і працоўным насельніцтвам. Каб адхіліць гэтую прычыну, патрэбна самая шырокая папулярызацыя сярод працоўных мас працоўнага заканадаўства, асабліва правіл пра прымірыцельна-пасрэдніцкі і судовы разгляд працоўных канфліктаў і палажэньня аб РКК („Изв. НКТ СССР“ 1928 г. № 51/52), а таксама трэба прыняць меры, каб РКК і суды вырашалі канфлікты на падставе паказаных правіл і палажэньня.

4. Правілы пра прымірыцельна-пасрэдніцкі разгляд працоўных канфліктаў пашыраюцца на справы па канфліктах сельска-гаспадарчых рабочых, занятых у савецкіх і калектыўных гаспадарках.

Правілы пра прымірыцельна-пасрэдніцкі і судовы разгляд працоўных канфліктаў у сялянскіх гаспадарках будуць выданы асобна.

5. Паводле п. п. „б“ і „е“ арт. 10 Правіл да кампэтэнцыі РКК не належаць справы аб скасаваньні працоўных дагавораў з работнікамі па патрабаваньню прафсаюзу.

П. „б“ арт. 10 мае на ўвазе скарыстаньне прафсаюзам сваіх праў на падставе арт. 49 Кодэксу Законаў аб Працы і з тае прычыны, што ў такіх справах стараною зьяўляецца вышэйшая прафсаюзная арганізацыя, то рабочая частка РКК ня можа быць прадстаўніком гэтай інстанцыі. Такія справы павінны разглядацца ў прымірыцельных камерах і пасрэдніцкіх судох.

6. Арт. 12 Правіл пералічвае канфлікты, якія падлягаюць абавязковаму разгляду ў РКК. Іншыя канфлікты могуць вырашацца па жаданьню работніка як у РКК, так і ў працоўнай сэсіі нарсуду (арт. 14).

У тых выпадках, калі паданая ў суд заява аб вырашэньні канфлікту тычыцца адначасова канфлікту, які падлягае абавязковаму разгляду ў РКК, і канфлікту, які такому разгляду не падлягае, то справа аб першым з гэтых канфліктаў павінна быць, па ўзгадненьні з заяўнікам, накіравана ў РКК. Калі-ж падаўшы заяву на гэта не згадзіцца, то суд павінен вырашаць толькі справу па тым канфлікце, які не падлягае абавязковаму разгляду ў РКК. Таксама суд павінен зрабіць у тым выпадку, калі абавязковасьць разгляду пытаньня ў РКК высьветліцца ў часе судовага пасяджэньня з прычыны зьмяненьня іскавых патрабаваньняў.

Канфлікты па пытаньнях аб выплаце выхадное дапамогі (п. „р“ арт. 12) падлягаюць абавязковаму разгляду ў РКК ва ўсіх выпадках, у прыватнасьці, у выпадках скасаваньня дагавору па прычынах, паказаных у п. „а“ і „б“ арт. 47 Кодэксу Законаў аб Працы.

7. 3-месячны тэрмін для падачы заявы аб вырашэньні канфлікту па пытаньнях выдачы спэцвопраткі, які ўстаноўлен Правілам (арт. 15), вылічваецца ад моманту сканчэньня тэрміну, устаноўленага для карыстаньня даным відам спэцвопраткі.

8. П. „а“ арт. 16 Правіл устанаўляе, што 14-дзённы тэрмін для падачы ў РКК заявы па пытаньнях аб звальненьні за невыкананьне абавязкаў, вылічваецца ад моманту ўчыненьня парушэньня, якое дае прычыну для ўзьняцьця пытаньня пра звальненьне.

Гэта трэба разумець у тым сэнсе, што наймальнік мае права паставіць пытаньне ў РКК аб звальненьні на працягу 14 дзён пасьля ўчыненьня парушэньня нанятным, пасьля-ж гэтага тэрміну ўзьняцьце пытаньня аб зваленьні па матывах данага ўчыненьня парушэньня можа быць толькі на падставе Правіл, паказаных у арт. 17 Палажэньня.

Калі-ж звальненьне за невыкананьне абавязкаў альбо па няпрыгоднасьці было зроблена бяз санкцыі РКК (увага 1 да арт. 47 К. З. аб Працы), то можа паўстаць пытаньне аб аднаўленьні на рабоце няправільна зволенага; у гэтым выпадку тэрмін для ўзьняцьця пытаньня аб аднаўленьні на рабоце—14-дзённы ад моманту прад'яўленьня работніку разьліку.

9. Калі адна з старон не зьявіцца на пасяджэньне РКК бяз важных прычын, то аб гэтым паведамляецца інспэктар працы для прыняцьця адпаведных мер уплыву, пры гэтым у адносінах канфлікту наступаюць вынікі, паказаныя ў арт. 21 Правіл.

10. Паводле арт. 42 Правіл, орган працы, пры адмене рашэньня РКК, можа накіраваць справу для новага вырашэньня ў тую самую РКК альбо ў працоўную сэсію народнага суду.

Накіраваньне справы ў гэтых выпадках павінна рабіцца паводле жаданьня работніка, калі справа мае іскавы характар. З групы іскавых спраў могуць быць зноў накіраваны ў РКК толькі такія справы, па якіх працоўнай сэсіі было-б цяжка разабрацца ў тэхнічных правілах разьліку, якія дзейнічаюць у данай установе.

11. З мэтаю зьнішчэньня цеганіны патрэбна зрабіць захады, каб пастановы РКК дакладна вырашалі канфлікт, у паасобку, каб яны вызначалі належачыя работнікам сумы, а не абмяжоўваліся толькі ўстанаўленьнем права на атрыманьне сум, з прадастаўленьнем вызначэньня іх суду (арт. 47 Правіл).

12. У выпадку падачы заявы ў суд аб вырашэньні канфлікту пасьля выходу ўстаноўленых у арт. 50 Правіл тэрмінаў судзьдзя аднаўляе тэрмін даўнасьці, калі ёсьць уважлівыя матывы (арт. 16 Палажэньня аб РКК), і прызначае справу да разгляду. Адмаўленьне судзьдзі ў прыняцьці заявы можа быць абскарджана ў парадку, устаноўленым для падачы прыватных скаргаў.

13. П. „а“ арт. 45 Правіл забараняе абскарджаньне і апратэставаньне пастаноў працоўных сэсій па грашовыхісках на суму ня больш месячнага заработку, ня зьвязаных з звальненьнем работніка.

Пад грашовымі іскамі, ня зьвязанымі з звальненьнем работніка, трэба разумець іскі аб выплаце грошай без патрабаваньня аб аднаўленьні на працы. Напрыклад, нельга абскардзіць пастанову суду па іску зволенага работніка аб выплаце выхадное дапамогі, калі ён разам з тым не патрабаваў аднавіць яго на працы. Калі-жісьцец, апроч грошай, прасіў аднавіць яго на працы, то пастанова суду па такому іску можа быць абскарджана незалежна ад разьмеру прысуджанай сумы.

Разам з гэтым касуецца абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі за 24/II—1928 г. № 34 „Пра парадак прыняцьця касацыйных скаргаў па працоўных справах“.

14. Права прымаць пастанову па сутнасьці справы, якое дадзена арт. 56 Правіл акруговым судом, належыць таксама Пленумам акруговых судоў і касацыйных калегій Вярхоўнага Суду ў выпадках разгляду спраў у парадку нагляду.

15. Арт. 57 Правіл устанаўляе, што не падлягаюць абскарджаньню і перагляду пастановы акруговых судоў і паўторныя пастановы працоўных сэсій, якія прыняты ў адпаведнасьці з паказаньнямі касацыйнай інстанцыі.

У зьвязку з гэтым НКЮ падаў у заканадаўчыя органы праект дапаўненьня ГПК артыкулам, які прадугледжвае, што пытаньне аб адпаведнасьці паўторнай пастановы працсэсіі паказаньням касацыйнай інстанцыі, вырашаецца апошняй у судовым пасяджэньні.

Што датычыцца пытаньня аб апратэставаньні пастаноў акруговых судоў і паўторных пастаноў працоўных сэсій у парадку нагляду, то гэтае пытаньне ўнесена на вырашэньне Пленуму Вярхоўнага суду БССР, у залежнасьці ад чаго НКЮ будуць дадзены адпаведныя паказаньні.

16. Паводле сэнсу арт. 59 Правіл, пастановы працоўных сэсій падлягаюць неадкладнаму выкананьню толькі ў частцы спагнаньня на карысьць работніка грашовай сумы ня звыш яго месячнага заработку, у астатняй-жа частцы, г. зн. у частцы спагнаньня грашовай сумы, якая застаецца за вылічэньнем месячнага заработку, а таксама ў частцы ўсіх іншых вырашаных пытаньняў, у прыватнасьці, аднаўленьня на працы, падлягаюць неадкладнаму выкананьню толькі паводле спэцыяльнай пастановы суду.

З прычыны супярэчнасьці, якая існуе ў гэтым пытаньні, між законам Саюзнага Ураду і арт. 187 ГПК, Народны Камісарыят Юстыцыі падаў у заканадаўчыя органы праект адпаведнай зьмены паказанага артыкулу ГПК.

17. Пры спагнаньні прысуджаных сум паісках працоўных і прафэсіянальных саюзаў да ўстаноў і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца

на дзяржаўным і мясцовым бюджэце (арт. 60 Правіл), належыць кіравацца правіламі разьдзелу XXXIII ГПК (З. З. БССР 1929 г., № 4, паст. 20, п. XVIII) і інструкцыяй НКЮ і НКФ „Пра парадак спагнаньня па выканаўчых лістох з дзяржаўных і грамадзкіх устаноў“ (Бюл. СНК 1929 г. № 3), пры гэтым у адносінах тых распарадчыкаў крэдытаў, якія не выконваюць пастановы суду альбо адмаўляюцца паказаць на артыкул каштарысу, з якога можна зрабіць спагнаньне, трэба прымаць самыя рашучыя захады для прыцягненьня іх да маемаснай і дысцыплінарнай адказнасьці.

18. Паводле арт. 35 Палажэньня пра РКК („Извест. НКТ СССР“ 1928 г. № 51/52), пратаколы пасяджэньняў РКК павінны складацца па форме, якая далучана да гэтага палажэньня.

Аднак, складаньне пратаколу па іншай форме ня можа быць прычынай для адмены пастаноў РКК, падставы адмены якіх вычэрпваюча пералічаны ў арт. 38 Правіл пра прымірыцельна-пасрэдніцкі і судовы разгляд працоўных канфліктаў.

Запісанае не выключае патрэбы пры складаньні пратаколу дакладна кіравацца паказанаю вышэй формаю.

Народны Камісар Юстыцыі БССР *А. Сташэўскі.*

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

22 чэрвеня 1929 г.
№ 45.

---

## 3. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра зьмену свае пастановы за 23 мая 1928 г. № 38 „Пра зацьверджаньне тыповых правіл унутранага парадку для дзяржаўных устаноў, кіруючага апарату дзяржаўных прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў і акцыйных таварystваў з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу“.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе ўнесьці наступныя зьмены ў сваю пастанову за 23 мая 1928 г. № 38 „Пра зацьверджаньне тыповых правіл унутранага парадку для дзяржаўных устаноў, кіруючага апарату дзяржаўных прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў і акцыйных таварыстваў з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу“ (Бюл. СНК 1928 г. № 7):

1. У арт. 7 замест „не пазьней 6 месяцаў пасьля сканчэньня работы“—запісаць „не пазьней 1 месяцу“.

2. Арт. II дадатку запісаць так: „пакараньні накладаюцца адміністрацыяй. Пытаньне аб звальненьні за парушэньне правіл унутранага парадку ва ўсіх установах, апроч дзяржаўных, перш за ўсё разглядаецца расцэначна-канфліктнаю камісіяй“.

3. Лічыць страціўшай сілу пастанову НК Працы БССР за 25 студзеня 1929 г. № 6 „Пра зьмену арт. 2 дадатку да тыповых правіл унутранага парадку для дзяржаўных устаноў, кіруючага апарату дзяржаўных прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў і акцыйных таварыстваў з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу“ (Бюл. СНК 1929 г. № 2).

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Ст. Праўны Інспэктар НК Працы БССР *Х. Гольдзінбэрг.*

25 чэрвеня 1929 г.
№ 46.

---

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра скасаваньне свае пастановы за 29 верасьня 1925 г. „Пра платнасьць паслуг пасрэдніцкіх бюро (сэкцый) па найманьні работнікаў мастацтва“.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе лічыць з часу выданьня інструкцыі НК Працы СССР за 31 сакавіка 1929 г. № 140 „Пра разьмеры і парадак аплаты пасрэдніцкіх і зьвязаных з імі апэрацый Цэнтральнага Пасрэдніцкага Бюро па найманьні работнікаў мастацтва“ (Извест. НКТ 1929 г. № 22—23) страціўшай сілу пастанову сваю за 29 верасьня 1925 г. „Пра платнасьць пасрэдніцкіх паслуг пасрэдніцкіх бюро (сэкцый) па найманьні работнікаў мастацтва“.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Ст. Інспэктар па рэгуляваньню
Рынку Працы БССР *С. Мышалаў.*

28 чэрвеня 1929 г.
№ 47.

---

## 5. Пастанова народных камісарыятаў Працы і Юстыцыі БССР

**пра дапаўненьне свае пастановы за 15 мая 1928 г. № 37 „Пра адказнасьць службовых і іншых асоб за парушэньні заканадаўства ў галіне найманьня, звальненьня і аплаты працы рабочых і служачых, а таксама за невыкананьне пастаноў судовых і канфліктных органаў“.**

1. Народныя камісарыяты Працы і Юстыцыі БССР пастанаўляюць дапоўніць сваю пастанову за 15 мая 1928 г. № 37 „Пра адказнасьць службовых і іншых асоб за парушэньні заканадаўства ў галіне найманьня, звальненьня і аплаты працы рабочых і служачых, а таксама за невыкананьне пастаноў судовых і канфліктных органаў“ (Бюл. СНК 1928 г. № 6) арт. V—VII наступнага зьместу:

„V. Пры вырашэньні ў працоўнай сэсіі спраў пра аднаўленьне на пасадзе альбо на працы няправільна звольненых работнікаў, працоўная сэсія можа ўскласьці на службовых асоб дзяржаўных, каперацыйных і грамадзкіх прадпрыемстваў і ўстаноў, якія няправільна звольнілі, абавязак адплаціць прадпрыемству альбо ўстанове страты, зробленыя апошняму праз выплату ўзнагароды няправільна звольненаму работніку. Паказаная плата ня можа перавышаць 3-месячнага заработку адпаведнае службове асобы.

VI. Калі суд прызнае патрэбным абмеркаваць пытаньне аб ўскладаньні на адміністрацыю матарыяльнай адказнасьці за зробленую шкоду, справа павінна разглядацца пры ўдзеле тых асоб, на якіх мяркуецца ўскласьці матарыяльную адказнасьць, з тым, каб яны мелі магчымасьць даць адпаведныя дакумэнты, тлумачэньні і г. д. Калі адпаведныя асобы ня прысутнічалі пры разглядзе асноўнай справы, пытаньне аб іх матарыяльнай адказнасьці выдзяляецца і разглядаецца судом асобна.

VII. Матарыяльная адказнасьць ня можа быць ускладзена на адміністрацыю ў наступных выпадках: а) калі няправільнае звальненьне было абгрунтавана на скасаванай пазьней пастанове РКК альбо іншага органу, б) калі рабочы альбо служачы звольнены за пару-

шэньне працоўнай дысцыпліны, але пасьля прызнана, што звальненьне можа быць заменена іншым больш мяккім пакараньнем, в) калі судом ня будзе ўстаноўлена наўмыснае парушэньне заканадаўства аб працы, асабовая зацікаўленасьць у звальненьні работніка і г. д. Пры наяўнасьці-ж паказаных парушэньняў, вінаватыя павінны ў належных выпадках прыцягвацца да адказнасьці таксама і ў крымінальным парадку".

2. З выданьнем гэтае пастановы лічыць страціўшым сілу абежнік НКЮ і НК Працы БССР за 14 лістапада 1928 г. № 87 „Пра растлумачэньне арт. IV пастановы НКП і НКЮ БССР за 15 мая 1928 г. пра адказнасьць службовых і іншых асоб за парушэньні заканадаўства ў галіне найманьня, звальненьня і аплаты працы рабочых і служачых" (Бюл. СНК 1928 г. № 16).

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Гохман.*

3 ліпеня 1929 г.
№ 48.

---

*Узгоднена з ЦСПСБ.*

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра спэцвопратку.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Спэцвопратка выдаецца рабочым і служачым бясплатна альбо па нормах, зацьверджаных НК Працы, альбо па нормах, прадугледжаных каляктыўнымі дагаворамі.

Нормы, прадугледжаныя каляктыўнымі дагаворамі, ня могуць быць ніжэй за нормы, зацьверджаныя НК Працы.

2. Рабочыя і служачыя занятыя прафэсіямі, што пералічаны ў нормах спэцвопраткі, атрымліваюць спэцвопратку незалежана ад таго, у якой галіне народнай гаспадаркі альбо ў якой вытворчасьці яны працуюць, апроч выпадкаў, прадугледжаных у адпаведных нормах.

3. Акруговыя інспэкцыі працы маюць права па згодзе з зацікаўленымі прадпрыемствамі і ўстановамі і прафэсіянальнымі саюзамі замяняць у межах зацьверджаных норм паасобныя віды спэцвопраткі іншымі (напр. брэзэнтавы гарнітур гарнітурам з іншай ткані і г. д.) у залежнасьці ад мясцовых умоў і ад асаблівасьцяй данай вытворчасьці. Пры такой замене адпаведна могуць зьмяняцца тэрміны нашэньня.

4. Адміністрацыя павінна выдаваць рабочым і служачым сшытую спэцвопратку дабраякасную, па разьмеры годную для нашэньня. Выдача замест спэцвопраткі матарыялаў для яе вырабу альбо грошай забараняецца.

У тых выпадках, калі спэцвопратка не выдаецца наймальнікам і паводле яго загаду купляецца беспасрэдна рабочымі альбо служачымі, наймальнік павінен аплаціць рабочаму альбо служачаму яе фактычны кошт.

5. Аб выдачы спэцвопраткі робіцца адзнака ў разьліковай кніжцы рабочага і служачага.

6. Калі спэцвопратка, выданая на вызначаны тэрмін, нягодна да зыходу гэтага тэрміну, яна павінна быць заменена годнай спэцвопраткай.

7. Калі пры няшчасным выпадку належачая рабочаму альбо служачаму вопратка сапсуецца, то кошт яе аплачваецца наймальнікам.

8. Калі спэцвопратку, выданую на вызначаны тэрмін, пасьля яго зыходу яшчэ можна насіць, то тэрмін нашэньня можа быць прадоўжаны наймальнікам. Калі рабочы альбо служачы ня згодзен з гэтым, справа разглядаецца ў РКК.

9. Спэцвопратка, якой ужо карысталіся, можа быць выдана іншаму рабочаму альбо служачаму толькі пасьля мыцьця і дэзынфэкцыі. У гэтых выпадках спэцвопратка выдаецца на час, што застаўся да зыходу тэрміну нашэньня, у адпаведнасьці з арт. 6 і 8.

10. Наймальнік павінен даць месца для хаваньня спэцвопраткі, а таксама вопраткі, што належыць рабочым на час работы.

У вытворчых прадпрыемствах спэцвопратка, а таксама ўласная вопратка рабочых павінна хавацца ў парадку, які ўстаноўлены разьдзелам VIII часовых правіл і норм прамысловага будаўніцтва (уведзены ў сілу пастановай Камісіі па Будаўніцтву Савету Працы і Абароны 5 сакавіка 1929 г. і апублікаваны асобным выданьнем).

11. У выпадку крадзяжу альбо папсаваньня вопраткі, што знаходзілася ў вызначаным месцы, рабочыя і служачыя не нясуць адказнасьці. У выпадку крадзяжу альбо псаваньня ўласнай вопраткі рабочага альбо служачага, якая дадзена на хаваньне, наймальнік павінен аплаціць зробленую шкоду натурай альбо грашыма. Адміністрацыя не адказвае за крадзеж альбо за псаваньне вопраткі, што знаходзіцца не ў паказаным адміністрацыяй месцы, і дробных рэчаў, што належаць рабочым і служачым.

12. Спэцвопратка належыць наймальніку і даецца рабочым і служачым толькі на час фактычнага выкананьня ўскладзенай на іх работы.

На час работы рабочыя і служачыя павінны насіць спэцвопратку. Наймальнік павінен сачыць за тым, каб рабочыя і служачыя на час работы карысталіся спэцвопраткай.

13. Час карыстаньня зімовай спэцвопраткай (пачатак і канец зімовага пэрыяду) вызначаецца ў каляктыўных дагаворах, а калі ёсьць спрэчка, то акруговымі інспэкцыямі працы.

14. Спэцвопратка мыецца і папраўляецца наймальнікам за яго кошт. Тэрмін мыцьця ўстанаўляецца па згодзе паміж адміністрацыяй і фабрычна-завадзкім камітэтам. Спэцвопратка папраўляецца тады, калі ёсьць патрэба. На час мыцьця і папраўкі наймальнік павінен выдаваць рабочаму альбо служачаму іншую спэцвопратку.

15. Калі спэцвопратка згубіцца або папсуецца па віне рабочага альбо служачага, то апошнія адказваюць паводле арт. 83 Код. Зак. аб Працы, пры чым кошт спэцвопраткі вызначаецца з падлікам яе знашэньня, але не па першапачатковай цане.

16. Пасьля зыходу тэрміну нашэньня (апроч выпадкаў, прадугледжаных арт. 8), а таксама пры звальненьні рабочы альбо служачы павінны зьвярнуць наймальніку спэцвопратку. Спэцвопратка, якая не перададзена, лічыцца страчанай, і рабочыя і служачыя адказваюць у гэтых выпадках паводле арт. 15 гэтай пастановы.

17. Рабочым і служачым занятым на сэзонных, часовых работах, вучням, падлеткам, прынятым у парадку звышброні, спэцвопратка выдаецца на агульных падставах.

18. Канфлікты па пытаньнях выдачы спэцвопраткі, замены яе грашовай кампэнсацыяй і інш. падлягаюць абавязковаму разгляду ў РКК.

19. Пры выдачы спэцвопраткі ўжываецца абежнік НК Працы СССР за 5 сакавіка 1926 г. № 55/325 „Пра парадак ужываньня некаторых

спэцнормаў у залежнасьці ад становішча вэнтыляцыі“ („Извест. НКТ“ 1926 г. № 13).

20. За несваечасовую выдачу маючайся спэцвопраткі прадстаўнікамі адміністрацыі, а таксама за нескарыстаньне рабочымі і служачымі спэцвопраткі, накладаюцца пакараньні згодна таблі пакараньняў да правіл унутранага парадку, чынных у даным прадпрыемстве альбо ўстанове.

21. Арт. арт. 1, 2, 4, 9, 12, 13, 14—20 гэтай пастановы пашыраюцца таксама і на перасьцярожныя прылады, што выдаюцца рабочым і служачым (акуляры, маскі і г. д.).

22. У дадатак да норм спэцвопраткі, прадугледжаных адпаведнымі пастановамі НК Працы СССР, НК Працы БССР пастанаўляе:

1. Устанаўляюцца наступныя нормы спэцвопраткі для некаторых катэгорый рабочых і служачых усіх прадпрыемстваў і ўстаноў:

*1. Канюх:* 1. Парусінавая рубашка на 1 год.
2. Брэзэнтавы фартух—да зношаньня.
3. Скураныя боты—1 год.

*2. Фурман:* 1. Доўгі кажух—3 зімовых сэзоны.
2. Брэзэнтавая накідка з каптуром—2 лет. сэз.
3. Цьвёрдыя валенкі (абшытыя скурай)—2 зім. сэз.
4. Зімовая шапка—да зношаньня.
5. Скураныя рукавіцы—да зношаньня.

*Увага.* Калі канюх адначасна выконвае абавязкі фурмана, альбо калі фурман выконвае абавязкі канюха, то спэцвопратка выдаецца паводле нормаў як для фурмана, і скураныя боты на 1 год.

*3. Шофэр:* 1. Скураны гарнітур—2 гады.
2. Скураныя рукавіцы (аўтамабільн.)—да зношан.
3. Цьвёрдыя валенкі—2 зімовых сэзоны.
4. Зімовая шапка—да зношаньня.
5. Футра—3 зімовых сэзоны.
6. Цёплыя рукавіцы—да зношаньня.
7. Акуляры—калі трэба.

*4. Пасланец:* 1. Брэзэнтавая накідка—2 гады.
2. Цьвёрдыя валенкі—2 зімовых сэзоны.
3. Камашы—1 год.
4. Зімовая шапка—да зношаньня.

*5. Вартаўнікі:* 1. Футра—3 зімовых сэзоны.
2. Брэзэнтавая накідка—2 гады.
3. Цьвёрдыя валенкі—2 зімовых сэзоны.
4. Зімовая шапка—да зношаньня.
5. Рукавіцы—да зношаньня.

*6. Апальнік:* 1. Брэзэнтавая куртка—2 зімовых сэзоны.
2. Брэзэнтавыя рукавіцы—да зношаньня.

*7. Дворнік:* 1. Брэзэнтавы фартух—да зношаньня.
2. Цёплыя рукавіцы—да зношаньня.

*8. Машыністка:* 1. 2 халаты з лёгкай тканіны—1 год.

*9. Кухарка:* 1. 2 курткі—1 год.
2. Фартух—да зношаньня.
3. Каўпак—да зношаньня.

*10. Прачка:* 1. 2 халаты—1 год.
2. Касынкі—да зношаньня.
3. Камашы 1 пара—1 год.

*11. Пасудамыя:* 1. Фартух—да зношаньня.
2. Касынка—да зношаньня.

*12. Прыбіральшчыца:*
1. 2 халаты з лёгкай тканіны—1 год.
2. Касынка да зношаньня.
3. Скураныя камашы 1 пара—1 год.

*13. Прадаўцы і сартавальнікі футравых вырабаў:*
1. Парусінавы халат—6 месяцаў.

*14. Прадаўцы хлебных магазынаў і цукерняў:*
1. 2 халаты з лёгкай тканіны—на 1 год.

23. Наймальнікі, вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы, прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным альбо крымінальным парадку.

З выданьнем гэтай пастановы касуюцца: а) пастанова НК Працы БССР за 15 кастрычніка 1928 г. № 67 „Пра нормы спэцвопраткі“ (Бюл. СНК 1928 г. № 13), б) пастанова НК Працы БССР за 25 студзеня 1929 г. № 5 „Пра скасаваньне вызначаных тэрмінаў нашэньня дробнай спэцвопраткі (Бюл. СНК 1929 г. № 2).

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Старшы Праўны Інспэктар НК Працы БССР *Х. Гольдзінбэрг.*

4 ліпеня 1929 г.
№ 49.

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра аслабаненьне ад абавязковай па-забіржавай рэгістрацыі зьдзелак на газэтную паперу.

На падставе ўвагі да арт. 2 пастановы Савету Працы і Абароны за 6-VIII-1927 г. (З. З. СССР 1927 г., № 47, арт. 484) і абежніку НК Гандлю СССР за 13/VI—1929 г. № кц. 786 Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. У дапаўненьне да свае пастановы № 15 за 9-II—1929 г. (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 2, п. 14) аслабаніць ад абавязковай па-забіржавой рэгістрацыі зьдзелкі, якія складаюцца на газэтную паперу.
2. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з моманту яе апублікаваньня.

Народны Камісар Гандлю БССР *К. Бэнэк.*

Сакратар НКГ БССР *Г. Паплаўскі.*

27 чэрвеня 1929 г.
№ 30.

---

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра зьніжэньне гранічных адпускных цэн на будаўнічыя лесаматарыялы.

На падставе п. п. „м“ і „о“ арт. 4 Часовага Палажэньня пра Народны Камісарыят Гандлю БССР, пастановы СПА за 12-XII—1928 г. (пр. 396) і на зьмену свае пастановы за 13-VI—1928 г. № 45, Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць наступныя гуртовыя максымальна-гранічныя адпускныя цэны па зьдзелках на будаўнічыя лесаматарыялы пры суадносіне гатункаў і разьмераў, згодна арт. I паст. Наркамгандлю БССР № 38

за 31-V—1927 г. франка-вагон ст. адпраўленьня ці франка-баржа (а для круглага лесу—ці чыстая вада)—прыстань адпраўленьня бліжэйшых да месцазнаходжаньня вытворчага прадпрыемства:

а) бярвеньні хваёвыя—16 р. 55 к. куб. мэтр.;

Пры вылічэньні кубатуры па табл. Крудэнэра-Турскага—17 р. 42 к. куб. мэтр.;

б) падтаварнік хваёвы —13 р. 24 к. куб. метр.;

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| в) дошкі хваёвыя I гат. | —37 | „ 44 | „ | „ | „ |
| II „ | —33 | „ 70 | „ | „ | „ |
| III „ | —29 | „ 95 | „ | „ | „ |
| Брак | —23 | „ 85 | „ | „ | „ , |

а ў сярэднім пры водпуску ў поўным асартымэнце ўстаноўленага пастановай НК Гандлю БССР № 38 за 31-V—1927 г.—32 р. 78 к. куб. мэтр;

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| г) рэйкі і крэсьнікі: I гат. | —41 р. | 19 к. | куб. | мэтр. | |
| II „ | —37 „ | 07 „ | „ | „ | |

2. Астатнія цэны, прадугледжаныя пастановай № 38 за 31-V—1927 г., пакінуць бяз зьмен.

3. Паказаныя ў арт. I гэтай пастановы цэны пашыраюцца на зьдзелкі па прадажы будаўнічых піламатарыялаў і будаўнічага круглага лесу і піловачных бярвеньняў нармальнай рыначнай спэцыфікацыі і не пашыраюцца на піламатарыялы і круглы лес, якія дастаўляюцца для інш. небудаўнічых патрэб прамысловасьці і транспарту, а таксама якія дастаўляюцца па асаблівых тэхнічных умовах і спэцыфікацыях пакупшчыка.

4. Па прадажах франка—месца прызначэньня цэны павінны быць складзены такім чынам, каб яны пасьля выключэньня кошту перавозкі ад месца адпраўленьня да месца прызначэньня, не перавышалі ўстаноўленых арт. I гэтай пастановы цэн.

5. Абавязаць усе дзяржаўныя і каперацыйныя лесагандлюючыя арганізацыі БССР устанавіць з моманту апублікаваньня гэтай пастановы гуртовыя і раздробныя цэны на памянёныя ў арт. I гэтай пастановы лесаматарыялы, якія рэалізуюцца імі з сваіх складаў праз скарыстаньне ўстаноўленай пастановаю НК Гандлю БССР № 34 за 16-V—1927 г. накідкі на ўжо зьніжаныя згодна артыкулу I гэтай пастановы цэны.

6. Цэны, якія ўстаноўлены арт. арт. 1 і 5 гэтай пастановы, пашыраюцца на ўсе дзяржаўныя, каперацыйныя і грамадзкія арганізацыі (у тым ліку Лесзаг НКЗ і Лясн. Аддзелы Чыг.) на тэрыторыі БССР як па прадажах на ўнутрыбеларускі рынак, так і на саюзны рынак, па ўсіх зьдзелках, складзеных пасьля 15-га студзеня 1929 г.

7. Абавязаць усе дзяржаўныя, каперацыйныя і грамадзкія арганізацыі ў 2-х месячны тэрмін скончыць перарахункі з усімі пакупшчыкамі ў адпаведнасьці з гэтай пастановай.

8. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 141 Кр. Код.

Народны Камісар Гандлю БССР *К. Бэнэк.*

Сакратар НК Гандлю БССР *Г. Паплаўскі.*

12 ліпеня 1929 г.
№ 35.

*Узгоднена з НКЮ БССР.*

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра зьмену пастановы НК Працы і НКЮ БССР за 24 лютага 1927 г. „Пра дапаўненьне камісіямі, утворанымі для ўстанаўленьня працоўнага стажу, рашэньняў, прынятых народнымі судамі па справах аб устанаўленьні гэтага стажу“.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе зрабіць наступныя зьмены ў пастанове НК Працы і НКЮ БССР за 24 лютага 1927 г. „Пра дапаўненьне рашэньняў, прынятых народнымі судамі па справах аб устанаўленьні працоўнага стажу, камісіямі, утворанымі для ўстанаўленьня гэтага стажу“ (Бюл. СНК 1927 г. № 6).

І. Уводную частку пастановы запісаць так:

„У сувязі з перадачаю спраў па ўстанаўленьні працоўнага стажу з народных судоў у камісіі пры страхавых касах“ (З. З. БССР 1927 г. № 43, арт. 234) выявілася, што рашэньні народных судоў часта няпоўны, не ўстанаўляюць усіх акалічнасьцяй, патрэбных для назначэньня пэнсіі і не задавальняюць усіх патрэб, якія паказаны ў „Правілах забясьпечаньня ў парадку сацыяльнага страхаваньня па інваліднасьці і ў выпадку страты кармільца“, зацьверджаных Саюзным Саветам Сацыяльнага Страхаваньня пры НК Працы СССР за 4 ліпеня 1928 г. за № 396 („Изв. НКТ“ за 1928 г. № 28/29).

ІІ. Арт. 2 запісаць так:

„У выпадках, калі ўстаноўленыя рашэньнямі народных судоў факты не здавальняюць умовам для назначэньня пэнсіі, якія вызначаны паказанымі вышэй правіламі („Изв. НКТ“ за 1928 г. № 28/29), камісіі па ўстанаўленьні працоўнага стажу пры акруговых страхавых касах могуць прымаць свае дадатковыя рашэньні па фактах, якія не ўстаноўлены рашэньнем народнага суда і якія патрэбны для назначэньня пэнсіі.

Камісіі пры акруговых страхавых касах у гэтых выпадках дзейнічаюць на агульных падставах, устаноўленых паказанымі вышэй правіламі“.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

За Начальніка Галоўнае Ўправы
Сацыяльнага Страхаваньня *В. Амстэрдам.*

12 ліпеня 1928 г.
№ 51.

---

*Узгоднена з ЦП Саюзу с.-г. і лясных рабочых.*

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра парадак устанаўленьня мінімальных ставак аплаты часовых рабочых, занятых у кулацкіх гаспадарках.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Мінімальныя стаўкі аплаты часовых рабочых, занятых у кулацкіх гаспадарках, на якія пашыраецца пастанова ЦВК і СНК СССР за 20-ІІ—1929 г. „Пра парадак ужываньня Кодэксу законаў аб працы ў кулацкіх гаспадарках“ (З. З. СССР 1929 г. № 14, арт. 117) незалежна ад спосабу аплаты (падзённа, зьдзельна або за адпрацоўку), устанаў-

ляюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі, па паданьні раённых упаўнаважаных па працы, на падставе арыентыровачных ставак, якія вызначаюцца прэзыдыумамі акруговых выканаўчых камітэтаў, па паданьні акруговых інспэкцый працы, узгодненаму з прафсаюзам с.-г. і лясных рабочых.

2 Мінімальныя стаўкі ўстанаўляюцца для паасобных відаў работы (жніво, касьба) і для розных сэзонаў асобна, за 8-мігадзінны рабочы дзень. За павялічаны рабочы дзень (ня больш як да 10 гадзін) устанаўлюцца спэцыяльныя набаўкі ў разьмеры ня меньш 1/3 часткі аплаты за 8-мігадзінны рабочы дзень. Стаўкі за работу ў сьвяточныя, паасобныя штотыднёвыя дні адпачынку ўстанаўляюцца ў падвойным разьмеры.

3. Наймальнікі, якія плацяць рабочым ніжэй за ўстаноўленыя стаўкі, прыцягваюцца да адказнасьці ў крымінальным парадку, паводле арт. 141 Крымінальнага Кодэксу БССР, альбо ў адміністрацыйным парадку, паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 2 студзеня 1929 г. (З. З. СССР 1929 г. № 4, арт. 31) праз накладаньне штрафу да 100 руб.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Ст. Сельска-Гаспадарчы Інспэктар
НК Працы БССР *Л. Лашкевіч.*

15 ліпеня 1929 г.
№ 52.

---

Зацьверджана Калегіяй НК РСІ 22-VI—1929 г.
(прат. пасядж. Калегіі № 33, п. 1).

## 11. Пастанова Калегіі Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР

### па абсьледваньню камунальна-жылішчнай гаспадаркі і дабрабыту гарадоў БССР.

#### 1. Пра агульнае становішча камунальна-жылішчнай гаспадаркі.

1. Пры вядомым адставаньні ў сваім разьвіцьці камунальнай і жылішчнай гаспадаркі БССР, разьмеры асноўнага капіталу па якіх складаюць 45 руб. 53 к. на аднаго жыхара супроць 94 руб. 15 к. па СССР, усё-ж трэба адзначыць пэўныя дасягненьні ў камунальнай і жылішчнай гаспадарцы. Гэтыя дасягненьні выяўляюцца ў наступным:

а) павялічаны мерапрыемствы па палепшаньні форм эксплёатацыі жылішчнага фонду праз узмацненьне тэмпу разгрузкі камгасаў ад непасрэднай эксплёатацыі імі жылфонду з перадачаю яго ЖАКТ'ам, што дасягае 71%;

б) павялічаны затраты на капітальны рамонт (3 р. выдаткаў на 1 кв. мэтр у 1928 г. супроць 1 р. 70 к. у 1925 г. або на 69%);

в) палепшана справа з кватэрнаю платаю, якая дасягае 70—75% сабекошту эксплёатацыі супроць 30—35% у 1925-26 г.;

г) павялічаны мерапрыемствы да пашырэньня новага жылішчнага будаўніцтва, якое дасягае па лініі АВК (ня лічачы РЖБКТ) 4% усяго жылішчнага фонду, а ўключаючы ведамсьцьвеннае будаўніцтва—9%.

Павялічаны таксама разьмеры будаўніцтва па лініі прыватнага сэктару (на 5% агульнай жылплошчы або на 7% усёй плошчы прыватнага сэктару), што ў цэлым адбілася на некаторым, хоць і вельмі мізэрным, павялічэньні нормы жылплошчы—на 0,05 кв. мэтраў (5,66 кв. мэтраў у 1925-26 г. і 5,71 кв. мтр. у 1927-28 г. супроць нормы 9,1 кв. мтр.);

д) за паказаны пэрыад павялічаны выдаткі на дабрабыт—у цэлым на 370%, галоўным чынам, за кошт выдаткаў па пабудове каналізацыі і трамваю ў Менску, вадаправоду ў Бабруйску і г. д.

2. Адначасна прызнаць, што, побач з акалічнасьцямі аб'ектыўнага характару (недастатковасьць фінансавых рэсурсаў і інш.), камунальная гаспадарка вялася наогул ва ўмовах яўнай нядбайнасьці і бесгаспадарнасьці з боку камгасаў пры адсутнасьці досыць уважлівых адносін з боку гарсаветаў і АВК і кантролю і кіраваньня з боку Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў, што відаць з наступных вельмі буйных недахопаў у камунальнай гаспадарцы:

а) малая ўдзельная вага муніцыпалізаванага жылішчнага фонду, не перавышаючая ў сярэднім па БССР 23% агульнага жылішчнага фонду, што зьяўляецца вынікам таго, што камгасамі ў свой час ня былі прыняты ўсе меры да ажыцьцяўленьня дэкрэтаў аб муніцыпалізацыі, а былі выпадкі яўнага папусьціцельства з боку асобных камгасаў у сэнсе масавага няправільнага застаўленьня ва ўласнасьці прыватнікаў буйных і рэнтабельных домаўладаньняў у гарадох;

б) зусім хаотычны падлік, а ў некаторых мясцох поўная адсутнасьць падліку камунальнай і жылішчнай маемасьці;

в) пакіданьне бяз усякага дагляду жылфонду, перададзенага ЖАКТ'ам, ведамствам і іншым арандатарам пры адсутнасьці належнага нагляду за становішчам прыватнага жылішнага фонду і адначасова поўная запушчанасьць і зруйнаваньне муніцыпалізаванага жылфонду, непасрэдна эксплёатуемага камгасамі пры зношанасьці, даходзячай да 70%;

г) нескарыстаньне магчымасьцяй для павялічэньня прыбытковасьці з аб'ектаў зямельнай гаспадаркі, як напрыклад: застаўленьне без дагавораў і без абкладаньня арэнднаю платаю шэрагу зямель з гаспадаркамі прамысловага характару, неспагнаньне платы за здабываньне будаўнічых матарыялаў (гліны, пяску, гравія і інш.);

д) шэраг выпадкаў бесгаспадарнасьці і бясплянавасьці ў новым жылішчным будаўніцтве, што выклікала значнае падаражаньне будаўніцтва (больш 10 тыс. руб. кошту кватэры па будаўніцтву ў Мазыры і г. д.), недарэчнасьці па будаўніцтву ў галіне дабрабыту ў Менску (неўвязка ў работах паміж каналізацыяй, забясьпечаньнем вадою і трамавайнымі работамі), да будаўніцтва трамваю приступлена без зацьверджаных праектаў, што парушае існуючыя дырэктывы, бесгаспадарнасьць пры пабудове масту праз раку Сьвіслач, у 2 разы падаражаўшае будаўніцтва, тое самае і пры пабудове вадаправоду ў Бабруйску і г. д.

3. Пацьвердзіць правільнасьць пастановы аб'яднанага Прэзыдыуму Гарсавету, АВК і Калегіі РСІ ў горадзе Мазыры па матарыялах абсьледваньня НК РСІ БССР аб прыцягненьні да крымінальнай адказнасьці працаўнікоў Мазырскага Камгасу за бесгаспадарнасьць у вядзеньні камунальнай гаспадаркі, побач з шэрагам злоўжываньняў.

Лічыць таксама неабходным прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці вінаватых у бесгаспадарнасьці па пабудове Менскім Камгасам масту праз раку Сьвіслач і па пабудове Бабруйскага вадаправоду.

### II. Пра структуру апарату.

З мэтаю зьнішчэньня недахопаў у камунальнай гаспадарцы і ў працы камгасаў лічыць патрэбным:

1. Ва ўсіх акруговых гарадох перабудаваць працу апарату камгасаў на наступных асновах:

а) строгай дэцэнтралізацыі і разьмежаваньня функцый аддзелаў камунальнай гаспадаркі з выдзяленьнем і адбіцьцём іх працы ў паасобных і незалежна ад гарсаветаў самастойных балянсаў, усклаўшы на НК Унутраных Спраў распрацоўку адпаведнага аб гэтым палажэньня.

б) устанаўленьня функцыянальнай сыстэмы ў сэнсе строгага разьмежаваньня функцый паміж асобнымі працаўнікамі пры непасрэднай адказнасьці кожнага за сваю працу з палепшаньнем якаснага складу працаўнікоў камгасаў, рашучай барацьбы з цякучасьцю адказных працаўнікоў і павялічэньня зарплаты спэцыялістаў.

2. У гарадох з менш разьвітаю камунальнаю гаспадаркаю лічыць патрэбным аслабаніць камгасы ад дробнай апекі прэзыдыумаў гарсаветаў, строга вызначыўшы функцыі і ўзаемаадносіны гарсаветаў і камгасаў.

3. Бяручы пад увагу, што разьмеркаваньне кватэр у шэрагу гарадоў займае каля 50% працы найбольш адказных працаўнікоў камгасу і праводзіцца, амаль выключна, па 30% плошчы прыватных домаўладаньняў, якая фактычна не зьвязана непасрэдна з працаю камгасаў, лічыць мэтазгодным перадаць функцыі па разьмеркаваньню кватэр спэцыяльным бюро пры гарсаветах са складу яго членаў, максымальна ўцягваючы ў працу бюро членаў адпаведных сэкцый гарсаветаў.

4. З мэтаю найбольш поўнага і правільнага ажыцьцяўленьня справы інструктаваньня і кантролю над камунальнай гаспадаркаю і ўлічваючы, што ў сучасны момант гэтыя функцыі распылены паміж НКУС (па камгасах акруговых гарадоў) і акруговымі камунальнымі інспэкцыямі (па камгасах у раённых гарадох), лічыць патрэбным:

а) поўнасьцю дэцэнтралізаваць справу інструктаваньня і кантролю, усклаўшы яе выключна на акруговыя інспэкцыі пры АВК, ня спыняючыся перад узмацненьнем апошніх, дзе гэта будзе патрэбна, адпаведнаю тэхнічнаю сілаю.

Цэнтральную Інспэкцыю пры НК Унутраных Спраў ліквідаваць і захаваць за апошнім функцыі па распрацоўцы заканадаўчых праектаў у галіне камунальнай гаспадаркі;

б) НКУС распрацаваць палажэньне пра функцыі акруговых камунальных інспэкцый і іх узаемаадносіны з НКУС і органамі камунальнай гаспадаркі.

5. Для палепшаньня справы падліку камунальнай гаспадаркі, НК Унутраных Спраў да 1/IX—1929 г. распрацаваць адпаведныя формы, прадугледжаныя пастановаю НК РСІ СССР за 7/XII—1928 г., па пытаньню рацыяналізацыі органаў камунальнай гаспадаркі.

6. Улічваючы часта наглядаемае прызначэньне камунальных даходаў на агульныя бюджэтныя патрэбы па паасобных гарадох (100—300 тысяч руб. у 1925-26 г. і 100—160 тыс. р. у 1927-28 г.), што зьяўляецца аднэй з асноўных прычын вельмі дрэннага становішча камунальнай гаспадаркі і дабрабыту, асабліва ў менш буйных гарадох, узьняць перад СНК БССР пытаньне аб балянсаваньні бюджэтаў камунальнай гаспадаркі па выдатках і даходах з павялічэньнем водпуску бюджэтных сродкаў па дэфіцытных гаспадарках.

Адначасова ўскласьці на НКУС і НКФ устанаўленьне намэнклятуры даходаў, якія павінны лічыцца камунальнымі.

### III. Пра жылішчны фонд.

Для змякчэньня жылішчнага крызісу і палепшаньня становішча камунальнага жылішчнага фонду, лічыць патрэбным:

1. Белкамунбанку максымальна павялічыць па лініі камгасаў і ЖАКТ'аў доўгатэрміновае крэдытаваньне на капітальны рамонт існуючага муніцыпалізаванага фонду, павялічыўшы тэрміны да максымальных разьмераў, устаноўленых законам, а таксама павялічыць разьмеры доўгатэрміновага крэдытаваньня індывідуальнага рабочага жылішчнага будаўніцтва.

2. ВСНГ і АВК з удзелам НКФ, НК Працы і Белкамунбанку прыняць меры да таго, каб спэцыяльныя адлічэньні па фонду палепшаньня быту рабочых былі поўнасьцю скарыстаны для рабочага жылбудаўніцтва і своечасова былі ўнесены ў Камунбанк.

Улічваючы нязначнасьць паказаных фондаў па паасобных прадпрыемствах, лічыць патрэбным скарыстаньне іх праз перадачу жылішчнабудаўнічай капярацыі на ўмовах укладаньня апошняю выстарчальных сродкаў і забясьпечэньня за кошт гэтых сродкаў жылой плошчы для рабочых данага прадпрыемства.

3. З прычыны наглядаючыхся выпадкаў спазьненьня ў выдачы крэдытаў ЖАКТ'ам, зьвярнуць увагу Белжылсаюзу на неабходнасьць больш своечасовай падачы заявак на крэдыты ЖАКТ'амі і акруговымі жылсаюзамі.

4. ВСНГ, у выкананьне існуючых дырэктыў, павялічыць разьмер удзелу прамысловасьці ў будаўніцтве жылішч для рабочых, які да апошняга часу не перавышаў 7% агульных укладаньняў у будаўніцтва; асабліва зьвярнуць увагу на гэта пры пабудове новых фабрык і заводаў і пры пашырэньні існуючых, калі гэта зьвязана з павялічэньнем ліку рабочых, якія маюць патрэбу ў жыльлі.

5. Паставіць перад СНК БССР пытаньне аб зьмене існуючага закону аб праве забудоўкі за 26/VI—1928 г. (З. З. БССР 1928 г. № 16, арт. 184) у сэнсе дачы ЖАКТ'ам права рабіць надбудаваньні і прыбудоўкі ў займаемым імі фондзе з атрыманьнем для гэтай мэты доўгатэрміновага крэдыту праз Белкамунбанк за кошт сродкаў, якія адпушчаюцца на крэдытаваньне жылішчнай капярацыі.

6. З прычыны нераўнамернага засяленьня жылой плошчы ў камунальным фондзе (у ЖАКТ'ах 29—36% жыхароў займаюць большую за норму плошчу), лічыць патрэбным:

а) поўнасьцю ажыцьцявіць існуючы закон аб прымусовым пацясьненьні жыхароў у муніцыпалізаваных дамох, у якіх можна было-б атрымаць пакоі, маючыя выхад на вуліцу або ў памяшканьне агульнага карыстаньня (у калідоры, у кухні і інш.).

Тое самае адносна нававыданага закону аб прымусовым перасяленьні, ўстанавіўшы строгі кантроль над правільнасьцю самаўшчыльненьня, скарыстоўваючы дапамогу рабочых брыгад;

б) Белжылсаюзу таксама з мэтаю самаўшчыльненьня разгарнуць і пашырыць у гарадох пасрэдбюро па абмену кватэр;

в) на працягу ня больш 2-х месяцаў канчаткова і поўнасьцю ў паасобных гарадох ажыцьцявіць існуючы закон пра высяленьне з камунальнага фонду жыльцоў непрацоўных катэгорый, які закон да гэтага часу выконваўся недастаткова.

7. Для павялічэньня жылой плошчы кватэр як па лініі камгасу, так і ЖАКТ'аў, узяць цьвёрды курс у напрамку:

а) пераплянiроўкi кватэр у дамох, праводзячы пры гэтым прынцып пэўнага павялiчэньня жылой плошчы за кошт абслугоўваючай, не пагаршаючы дабрабыту кватэр;

б) перабудовы ў мунiцыпалiзаваных дамох усiх тых гандлёвых памяшканьняў, якiя ў будучым ня могуць непасрэдна эксплёатавацца, прымаючы меры да перасяленьня невялiкiх установаў i кантор у гандлёвыя памяшканьнi.

8. Бяручы пад увагу, што значная частка мунiцыпалiзаванага фонду ў шэрагу гарадоў (Бабруйск, Ворша i iнш.) занята ўстановамi пры плошчы на аднаго супрацоўнiка ад 7 да 17 кв. мэтр. супроць нормы 4,55 кв. мтр., лiчыць патрэбным:

а) гарсаветам праз адпаведныя сэкцыi ўзмацнiць мерапрыемствы па ажыцьцяўленьнi iснуючай дырэктывы Ураду аб ушчыльненьнi установаў;

б) паступова, у зьвязку з павялiчэньнем будаўнiцтва ведамстваў, у выкананьне iснуючых дырэктыў, АВК i гарсаветам мець строгi нагляд за тым, каб пры аслабаненьнi плошчы з пад. установаў, апошняя павялiчвала жылiшчны фонд, не перадаючы гэтай плошчы цалкам iншым установам.

9. Будаўнiчаму Камiтэту пры ЭКАНА праз адпаведныя органы на мясцох мець няўхiльны нагляд за рацыянальнай плянiроўкай кватэр, уцягваючы праз адпаведныя саюзы да ўдзелу ў наглядзе за якасьцю i тыпам новых кватэр для рабочых.

10. Улiчваючы наяўнасьць асобных вельмi буйных домаўладаньняў, якiя падлягалi мунiцыпалiзацыi i засталiся ў прыватнай уласнасьцi з прычыны яўных упушчэньняў з боку камгасаў (Бабруйск i iнш.), НКЮ правесьцi спэцыяльнае па гэтым пытаньнi расьсьледваньне для ўзьняцьця перад ЦВК пытаньня аб мунiцыпалiзацыi гэтых дамоў пасьля прызнаньня судом фактаў злоўжываньня з боку органаў камунальнай гаспадаркi i домаўладаньняў.

11. Бяручы пад увагу вельмi запушчаны i зруйнаваны стан мунiцыпалiзаванага фонду, якi знаходзiцца ў непасрэднай эксплёатацыi камгасаў, i немэтазгоднасьць яго непасрэднай эксплёатацыi апошнiмi, гарсаветам i камгасам паскорыць канчатковую перадачу ўсяго фонду ЖАКТ'ам да 1-га кастрычнiка з выдачаю апошнiм, у патрэбных выпадках, датацый за кошт даходу ад гандлёвых памяшканьняў i адпаведных крэдытаў па лiнii Камунальнага Банку. Фонд, якi выявiцца яўна няпрыгодным для непасрэднай арэнды ЖАКТ'амi, здаваць у арэнду iндывiдуальным асобам або лiквiдаваць яго праз прадажу.

12. Улiчваючы наяўнасьць у некаторых буйных гарадох новапабудаваных шматкватэрных i рэнтабельных дамоў, лiчыць мэтазгодным, у якасьцi спробы, арганiзаваць для кiраўнiцтва iмi, на аснове самаакупаемасьцi, дамавыя трэсты.

13. З прычыны шэрагу недахопаў па эксплётацыi i арэндзе мунiцыпалiзаванага фонду markdown рознымi арганiзацыямi i ўстановамi, лiчыць для камгасаў патрэбным:

а) мець нагляд за выкананьнем арандатарамi ўсiх умоў дагавораў па рамонту, страхаваньню i iнш., спынiўшы пры гэтым бездагаворнае карыстаньне дамамi з боку установаў;

б) пераглядзець дагаворы з ЖАКТ'амi ў залежнасьцi ад iх становiшча ў паасобных гарадох для:

1) устанаўленьня ацэнкi маемасьцi, а таксама ацэнкi i дакладнага пералiку патрэбных рамонтаў у здадзеных дамох, прадугледзеўшы каляндарныя пляны выкананьня гэтых рамонтаў з тым, каб у першую

чаргу яны забясьпечвалі працяжнасьць службы будынкаў, а таксама няўстойку за невыкананьне дагавораў;

2) канчатковай перадачы ЖАКТ'ам усіх гандлёвых памяшканьняў у арэндуемых імі дамох з адлічэньнем пэўнай сумы ў карысьць мясцовага бюджэту; адначасна прадугледзець устаноўленую законам арэндную плату ў форме амартызацыйных адлічэньняў у больш моцных ЖАКТ'ах;

в) адначасна, у выкананьне пастановы ЦВК і СНК БССР за 27/XII-28 г., пераглядзець дагаворы з усімі іншымі катэгорыямі арэндатараў на гандлёвыя памяшканьні для ўстанаўленьня тарыфаў на асновах амартызацыйных адлічэньняў і працантаў на капітал;

г) устанавіць нагляд і абавязаць ЖАКТ'ы і іншых арандатараў пэрыядычна падаваць камгасам акты прыйманьня на праведзеныя рамонты і правяраць гэтыя акты з пункту погляду паўнаты і якасьці рамонтаў;

д) для забясьпечаньня больш поўнай аховы фонду ў дамох, якія арандуюцца ЖАКТ'амі, Белжылсаюзу перайсьці на заключэньне дагавораў з жыхарамі, прадугледзіўшы ў дагаворах адказнасьць за няспраўнае трыманьне кватэр, на арганізацыю са складу ўпаўнаважаных дамавых бюро на тэрыторыі ЖАКТ'аў, каб палегчыць нагляд за фондам, распрацаваўшы аб гэтым адпаведнае палажэньне;

е) адзначаючы няўважлівыя адносіны прыватнікаў да сваіх дамаўладаньняў, дзякуючы чаму гэтыя дамаўладаньні паступова зруйноўваюцца, камгасам устанавіць няўхільны нагляд за гаспадарчым становішчам гэтых домаўладаньняў праз пэрыядычныя абсьледваньні, складаючы адпаведныя акты аб патрэбных рамонтах з паказаньнем тэрмінаў іх выкананьня і падачы, у патрэбных выпадках, іскаў аб муніцыпалізацыі.

Для палягчэньня справы кантролю, адначасна лічыць мэтазгодным складаць са складу жыхароў, карыстаючыхся выбарчым правам, адпаведных троек, якія павінны мець нагляд за ўтрыманьнем і становішчам фонду.

14. З прычыны таго, што ў шэрагу гарадоў да гэтага часу ня ўлічана 30%-я жылая плошча ў прыватных дамох, гарадзкім саветам максымальна ўцягнуць адпаведныя сэкцыі ў працу па дакладным выяўленьні гэтай плошчы.

### IV. Пра зямельную гаспадарку.

З мэтаю ўпарадкаваньня зямельнай справы і пляніроўкі гарадоў, лічыць патрэбным правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. У адпаведнасьці з зацьверджаным СНК БССР плянам чарговасьці і выкананьня работ па абмежаваньню і пляніроўцы гарадоў і мястэчак, гарсаветам прадугледзець у каштарысах будучых гадоў дастатковыя сумы на правядзеньне гэтых работ, бо сродкі гэтыя ў сучасны момант зусім не выстарчальны (хістаньне ў паасобных гарадох ад 14 да 20 тыс. руб.). Адначасна ўзгадніць з адпаведнымі зямельнымі органамі пытаньне аб уключэньні ў іх пляны работ па абмежаваньні гарадоў і мястэчак. Апроч таго, сваечасова запрашаць спэцыялістаў па пляніроўцы і падрыхтоўчых да яе гэодэзычных работ.

2. З прычыны недарэчнасьцяй, якія выклікаюцца з знаходжаньнем у гарадзкой мяжы ў некаторых гарадох вельмі значнай колькасьці зямель працоўнага карыстаньня (малая сувязь з органамі камунальнай гаспадаркі, паколькі гэтыя землі кіруюцца на аснове Зямельнага Кодэксу, ацягчэньне гарадзкога бюджэту на ўтрыманьне гэтых зямель і г. д.),

лічыць патрэбным: а) у тых гарадох, дзе такія землі нічым не зьвязаны з камунальнаю гаспадаркаю (Мазыр), такія землі выключыць са складу гарадзкіх зямель і перадаць органам НКЗ; б) у іншых гарадох працу па кіраваньню гэтымі землямі весьці ў напрамку большай сувязі з інтарэсамі гарадоў (разьвядзеньне гародніх культур, жывёлагадоўлі і г. д.), адпаведна зьмяніўшы асобныя артыкулы Зямельнага Кодэксу; в) НК Унутраных Спраў і НК Земляробства з удзелам НКЮ распрацаваць адпаведныя праекты па паказаных вышэй пытаньнях і падаць іх на зацьверджаньне СНК.

3. НКУС і НК Земляробства з удзелам НКЮ распрацаваць адпаведны праект аб зьмене Ляснога Кодэксу ў сэнсе дачы гарадом права весьці ў гарадзкіх лясох, побач з паркавай, таксама і эксплёатацыйную гаспадарку, бяручы пад увагу, што ў шэрагу гарадоў значныя лясныя масывы часта раскіданы на далёкай адлегласьці ад гарадзкіх цэнтраў без магчымасьці скарыстоўваць іх выключна для гарадзкіх паркаў і гэта прыводзіць толькі да значных выдаткаў на іх ахову.

4. Адзначаючы вельмі дрэннае становішча муніцыпалізаваных фруктовых садоў, якія, як агульнае зьявішча ў гарадох, паступова зьнішчаюцца ад недагляду з прычыны раскіданасьці іх па ўсёй тэрыторыі гораду, лічыць патрэбным разгрузіць камгасы ад непасрэднага вядзеньня садовай гаспадаркі перадачаю садоў ЖАКТ‘ам і іншым арандатарам на ўмовах належнага нагляду за імі і пры абавязковым наглядзе камгасаў за выкананьнем дагавораў арэнды.

5. Для зьнішчэньня недахопаў у галіне забудоўкі лічыць патрэбным: а) гарсаветам і камгасам, з мэтаю папярэджаньня беспарадкавай забудоўкі ў гарадох, частковыя праекты пабудоў складаць пры абавязковым заключэньні санітарнага і пажарнага нагляду і зацьверджаньні акруговым інжэнэрам з увязкаю з магчымымі пэрспэктывамі будучай пляніроўкі гораду; б) гарсаветам, у выкананьне існуючых дырэктыў распрацаваць максымальныя нормы забудоўкі сядзібных пляцоў у залежнасьці ад маючыхся зямельных запасаў і выходзячы з больш эканамічнага іх выдаткаваньня; в) камгасам рэгуляваць парадак праходжаньня заяў на забудоўку пляцоў, скараціўшы інстанцыі і ўстанавіўшы плянавасьць і чарговасьць адводу пляцоў з тым, каб увесь працэс працягваўся ня больш 2-х месяцаў. Адначасна ўстанавіць строгі нагляд за выкананьнем забудоўшчыкамі ўсіх умоў дагавораў, скарыстоўваючы ўсе прадугледжаныя існуючымі законамі меры ўплыву.

6. Улічваючы адсутнасьць усякага падліку і ацэнкі асноўнага капіталу аб‘ектаў камунальнай і зямельнай гаспадаркі, што не дае магчымасьці плянава весьці гаспадарку, НКУС і НКФ распрацаваць і ўнесьці на зацьверджаньне СНК праект закону аб інвэнтарызацыі ў БССР усіх відаў камунальнай маемасьці, прадугледзеўшы плян і чарговасьць правядзеньня гэтых работ па гадох і патрэбныя для гэтага асыгнаваньні.

### V. Пра дабрабыт гарадоў.

З прычыны вельмі дрэннага становішча гарадоў, асабліва раённых (малая колькасьць бруку, тратуараў, вулічнага асьвятленьня, неадпаведнае санітарнае становішча і г. д.), лічыць патрэбным:

1. Гарсаветам з пераходам на балянсаваньне бюджэту камунальнай гаспадаркі павялічыць асыгнаваньне на дабрабыт, увязаўшы пляны па дабрабыту з плянамі грамадзкіх работ ў сэнсе накіраваньня асыгнуемых на дабрабыт сродкаў, галоўным чынам, на патрэбныя па дабрабыту матар‘ялы, паколькі сродкі на грамадзкія работы павінны пераважна выдаткоўвацца на рабочую сілу (80—85 %).

2. Гарсаветам, асабліва ў гарадох, дзе пяцігадовым плянам не прадугледжана каналізацыя, узмацніць увагу на пытаньні санітарнага становішча ў сэнсе ўзмацненьня асенізацыйных абозаў, удасканаленьня способаў абясшкоджваньня нячыстот праз адвод палёў асенізацыі, спальваньне сьмецьця і інш. Даручыць НКУС і НК Аховы Здароўя распрацаваць праект аб упарадкаваньні асенізацыйнай справы на паказаных вышэй падставах.

3. З прычыны асабліва прымітыўных элемэнтаў дабрабыту ў раёнах знаходжаньня фабрык і заводаў на акраінах гарадзкіх вуліц, вакол якіх селяцца рабочыя гэтых фабрык і заводаў (адсутнасьць бруку, мастоў, лазьняў, вадаправодаў і г. д.), лічыць патрэбным, каб дзяржаўная прамысловасьць удзельнічала ў выдатках гарсавету на гэты дабрабыт праз дачу зваротных крэдытаў, не выключаючы ў патрэбных выпадках і датацый. НКУС разам з НКФ і ВСНГ распрацаваць і падаць у СНК адпаведны праект пастановы.

4. Лічыць адным з вельмі важных мерапрыемстваў для палепшаньня справы дабрабыту гарадоў паскорыць выкананьне пастановы СНК БССР пра выдзяленьне са складу трэстаў мясцовай прамысловасьці прадпрыемстваў, якія маюць выключна камунальнае значэньне з перадачаю іх у веданьне гарсаветаў і пад агульным кіраўніцтвам цэнтральных органаў, якія ведаюць камунальнаю справаю.

5. АВК і гарсаветам зьвярнуць увагу на ўпарадкаваньне задавальненьня вадою ў тых гарадох і мястэчках, дзе, з прычыны адсутнасьці вадаправоду, вадою карыстаюцца пераважна са студняў, распрацаваўшы адпаведныя мерапрыемствы па палепшаньню становішча студняў і ўрэгуляваньні парадку карыстаньня вадою. Тое самае ўжыць і ў тых гарадох, дзе хоць і ёсьць вадаправоды, але няпоўнасьцю абслугоўваюць насельніцтвам.

6. З мэтаю ўрэгуляваньня справы больш нармальнага карыстаньня рабочым насельніцтвам лазьнямі, АВК і гарсаветам у 2-хмесячны тэрмін, па ўзгадненьні з адпаведнымі прафсаюзнымі арганізацыямі, распрацаваць мерапрыемствы аб магчыма большай увязцы гадзін працы лазьняў з гадзінамі сканчэньня работ на прадпрыемствах. АВК і гарсаветам у 3-хмесячны тэрмін адначасна распрацаваць і падаць праз НКУС на зацьверджаньне СНК праект пастановы па пытаньні аб тарыфікацыі камунальных паслуг ва ўсіх галінах.

7. З мэтаю зьнішчэньня існуючага паралелізму паміж ведамствамі, узмацненьня і рацыяналізацыі справы пажарнай аховы Рэспублікі, лічыць патрэбным:

а) згрупаваць у НКУС справу кіраўніцтва і рэгуляваньня пажарнаю аховаю Рэспублікі за выключэньнем НК Вайсковых Спраў, НК Шляхоў і аховы лясоў, з захаваньнем за ВСНГ выключна фінансава-пляновых функцый па пажарнай ахове прадпрыемстваў;

б) такую самую структуру ўстанавіць і ў акругах, падпарадкаваўшы справу аб'яднанай пажарнай аховы акруговым выканаўчым камітэтам;

в) лічыць патрэбным узбуйніць раёны па пажарнай ахове ў акругах з разьліку ня менш 3-х адміністрацыйных раёнаў на аднаго пажарнага інструктара;

г) з прычыны недастатковай кваліфікацыі існуючых пажарна-тэхнічных сіл, лічыць патрэбным утварыць пажарна-тэхнічныя курсы рэспубліканскага маштабу;

д) аднačасна лічыць немэтазгодным захаваньне Ўсебеларускага Пажарнага т-ва, як органу, які, апроч разьмеркаваньня пажарнага інвэн-

тару, чым паралельна заняты і НК Унутраных Спраў, фактычна ніякай фактычнай працы не вядзе;

е) НК Унутраных Спраў па гэтых пытаньнях распрацаваць і падаць на зацьверджаньне СНК адпаведны законапраект і адначасна распрацаваць правілы проціпажарнай аховы, уключаючы і прадпрыемствы.

8. Запрапанаваць АВК праз акруговыя інспэкцыі ў 2-хмесячны тэрмін упарадкаваць пытаньне аб ачыстцы комінаў, зьнішчыўшы існуючую ў паасобных гарадох розьніцу ў аплаце гэтых паслуг і ўстанавіўшы цьвёрды нагляд за працаю атрадаў па ачыстцы труб.

Акруговым выканаўчым камітэтам праз інспэкцыі на мясцох зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на ўзмацненьне працы органаў пажарнага нагляду за будаўніцтвам у сэнсе больш частай праверкі адлегласьцяй паміж будынкамі і прыняцьця непасрэднага ўдзелу пры складаньні намячаемых праектаў пляніроўкі гарадоў.

9. Лічыць немэтазгодным распыленьне сродкаў, якія адпушчаюцца Дзяржстрахам, пры водпуску іх непасрэдна раёнам, з прычыны нязначнасьці сродкаў, прыпадаючых на раён і немагчымасьці на гэтыя сродкі самастойна набываць які-небудзь каштоўны інвэнтар. НКУС разам з Дзяржстрахам распрацаваць праект канцэнтрацыі гэтых сродкаў пры АВК, якім, у залежнасьці ад становішча раёнаў, разьмяркоўваць інвэнтар, што набываецца за гэтыя сродкі.

10. АВК праз акруговыя інспэкцыі на мясцох распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы аб ушчыльненьні рабочага дня ў прафэсіянальных пажарных камандах і аб падвышэньні працоўнай дысцыпліны ў прадпрыемствах, устанавіўшы па лініі камгасаў і камунальных трэстаў падлік прагулаў.

Адначасна лічыць патрэбным вылучыць паасобных рацыяналізатараў у камунальных аддзелах і камунальных трэстах у гарадох з больш разьвітаю камунальнаю гаспадаркаю.

Нам. Народнага Камісара
Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР *Конанаў*.

22 чэрвеня 1929 г.

---

## 12. Палажэньне пра раённую агранамічную сетку зямельных органаў БССР.

*(Выдаецца на падставе пастановы СНК БССР за 22-XII—1928 г. „Пра арганізацыю і ўзмацненьне агранамічнай працы ў БССР“).*

### I. Задачы раённай агранамічнай сеткі.

§ 1. У адпаведнасьці з агульнымі задачамі сельска-гаспадарчай палітыкі, асноўнаю задачаю раённай агранамічнай сеткі БССР зьяўляецца плянавае ажыцьцяўленьне сыстэмы агрыкультурных мерапрыемстваў, якія садзейнічаюць сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі БССР, падвышэньню вытворчасьці, таварнасьці яе на грунце пашырэньня і ўзмацненьня працэсаў масавай калектывізацыі, вытворчага каапераваньня бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, індустрыялізацыі і мэханізацыі сельскай гаспадаркі БССР.

§ 2. У адпаведнасьці з вызначанаю асноўнаю задачаю, паасобнымі задачамі раённай агранамічнай сеткі БССР зьяўляюцца:

а) ажыцьцяўленьне арганізацыйна-агрыкультурных мерапрыемстваў па арганізацыі калгасаў, каперацыйных вытворчых аб'яднаньняў і па аграабслугоўваньні ўжо існуючых калектываў і вытворчых каператываў;

б) правядзеньне масавых агрыкультурных мерапрыемстваў, якія забясьпечваюць падвышэньне ўраджайнасьці і вытворчасьці сельскай гаспадаркі: пашырэньне ўжываньня розных угнаеньняў, палепшанага і гатунковага насеньня, травасеву, палепшаных спосабаў апрацоўкі глебы, спосабаў пасеву, арганізацыі аховы расьлін ад шкоднікаў і г. д.;

в) ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў па арганізацыі гаспадарак у сувязі з правадзімым земляўпарадкаваньнем (арганізацыя шматпалёвых севазваротаў, удзел у агранамічным абслугоўваньні земляўпарадчага працэсу);

г) ажыцьцяўленьне спэцыяльных мерапрыемстваў па разьвіцьці паасобных галін сельскай гаспадаркі БССР: жывёлагадоўлі, садоўніцтва, гародніцтва, ільнаводзтва, пчалярства і інш., з мэтаю забясьпечаньня больш рацыянальнай арганізацыі сельскай гаспадаркі БССР, падвышэньня вытворчасьці і таварнасьці яе;

д) удзел у правядзеньні мерапрыемстваў па забясьпечаньні насельніцтва сродкамі вытворчасьці (машыны, насеньне, угнаеньне) і дачы матарыяльнай агрыкультурнай дапамогі бядняцкім і серадняцкім гаспадаркам праз арганізацыю сеткі пракатных, злучных пунктаў, выхавальнікаў, насенных фондаў і г. д.

е) ажыцьцяўленьне агрыкультурных мерапрыемстваў па падвышэньні ўзроўню сельска-гаспадарчай і агранамічнай сьвядомасьці шырокіх колаў гаспадарчага насельніцтва, у першую чаргу членаў калектыўных, каперацыйных аб'яднаньняў, вясковага грамадзкага актыву, сялянскай моладзі, вясковага настаўніцтва, грамадзкіх упаўнаважаных па масавых аграмерапрыеставах;

ж) дапамога ў разгортваньні на мясцох працы інстытуту сялян-дасьледчыкаў і наогул ва ўкараненьні ў шырокія колы насельніцтва вынікаў працы навукова-дасьледчых устаноў;

з) вывучэньне становішча, асаблівасьцяй, зьмен, асабліва прагрэсыўна-агрыкультурных у сельскай гаспадарцы раёну.

## II. Пабудова раённай агранамічнай сеткі.

§ 3. Агранамічная сетка ў раёнах будуецца па тыпу раённа-вучастковай. Агранамічны раён тэрытарыяльна супадае з адміністрацыйным раёнам.

З мэтаю набліжэньня агранамічнага пэрсаналу раёну да аб'ектаў аграпрацы, рацыяналізацыі апошняй, у межах аграраёну выдзяляюцца агранамічныя вучасткі.

§ 4. Сталая сетка агравучасткаў у акрузе вызначаецца акруговым зямельным аддзелам і зацьвярджаецца НК Земляробства. Пры вызначэньні агравучасткаў у кожным раёне павінны прымацца пад увагу: а) прыродныя і арганізацыйна-эканамічныя асаблівасьці (напрамак і ўзровень інтэнсыўнасьці сельскай гаспадаркі) у паасобных частках раёну; б) разьмеркаваньне аб'ектаў аграпрацы і пэрспэктывы разгортваньня аграмерапрыемстваў у паасобных частках раёну, у асноўным у сувязі з арганізацыяй каляктыўных і каперацыйных аб'яднаньняў і правядзеньнем унутрывясковага земляўпарадкаваньня. Як агульнае правіла, радыус агравучастку ня можа быць большым 10 кілёмэтраў для экстэнсыўных раёнаў і для інтэнсыўных раёнаў—ня больш 1500 гаспадарак на вучастак.

§ 5. Укамплектаваньне спэцыяльна прыстасаванага для абслугоўваньня агравучасткаў пэрсаналу праводзіцца ў аперацыйным годзе ў залежнасьці ад штатаў аграпэрсаналу раёнаў, зацьверджаных у належным

парадку. У першую чаргу ўкамплектоўваюцца пэрсаналам аграраёны і агравучасткі з найбольш разгорнутымі мерапрыемствамі па калектывізацыі, вытворчаму капераваньню і ўнутрывясковаму земляўпарадкаваньню.

§ 6. У нармальныя штаты агранамічнага пэрсаналу раёну ўваходзяць наступныя катэгорыі аграпрацаўнікоў: а) раённы аграном, б) вучастковыя аграномы, в) аграномы па калектывізацыі і капераваньні, г) раённыя інструктары-спэцыялісты па паасобных галінах сельскай гаспадаркі ў адпаведнасьці з разьвіцьцём у раёнах тае ці іншае галіны сельскае гаспадаркі.

§ 7. Апроч вызначаных штатных катэгорый аграпрацаўнікоў, штатамі раёнаў павінны быць прадугледжаны: а) практыканты на тэрмін да 6 месяцаў (з ліку студэнтаў апошніх курсаў вышэйшых с.-г. навучальных установаў і скончыўшых с.-г. тэхнікумы), б) дапаможны пэрсанал: вартаўнікі, рабочыя пры аграпунктах, пры пракатных, зернаачышчальных і злучных пунктах, якія знаходзяцца ў непасрэдным загадваньні зямельных органаў. Практыканты запрашаюцца і скарыстоўваюцца для: а) практычнай падрыхтоўкі кваліфікаваных аграпрацаўнікоў, б) узмацненьня працы сталага агранамічнага пэрсаналу.

§ 8. Штаты на кожны аперацыйны год па раёнах вызначаюцца АКРЗА у адпаведнасьці з агульна-раённымі і агульна-акруговымі плянамі мерапрыемстваў па сельскай гаспадарцы і дырэктывамі НКЗ, згодна пэрспэктыўнаму пляну сельскай гаспадаркі. Вызначаныя штаты зацьвярждаюцца адпаведнымі акрвыканкомамі.

За НКЗ захоўваецца права ўносіць патрэбныя зьмены і дапаўненьні ў зацьверджаныя акрвыканкомамі штаты раённага пэрсаналу, калі яны разыходзяцца з аперацыйнымі плянамі НКЗ.

§ 9. Назначэньне, звальненьне і перамяшчэньне ўсяго раённага агранамічнага пэрсаналу праводзіцца АКРЗА з папярэднім узгадненьнем з адпаведнымі райвыканкомамі і акруговым аддзяленьнем Саюзу сельскагаспадарчых і лясных рабочых.

Дапаможны пэрсанал (вартаўнікі, рабочыя) запрашаецца і звальняецца райвыканкомамі, згодна існуючых правіл аб найме працоўнай сілы.

§ 10. Пасады раённых аграномаў замяшчаюцца у першую чаргу асобамі з вышэйшай сельска-гаспадарчай адукацыяй і з практычным стажам грамадзка-агранамічнай працы ня менш 1 году. Скончыўшыя сельска-гаспадарчыя тэхнікумы могуць быць залічаны на пасаду раённых аграномаў толькі пры практычным стажы па грамадзкай агранаміі ня менш 3 год, для асоб з ніжэйшаю адукацыяю абавязкова мець стаж ня менш 5 год. Пасады вучастковых аграномаў, аграномаў па калектывізацыі і капераваньні, раённых інструктароў, спэцыялістаў замяшчаюцца асобамі з сельска-гаспадарчай адукацыяй ня ніжэй сярэдняй і пры практычным стажы ня менш 6 месяцаў, а з ніжэйшай адукацыяй ня менш 3 год; пераважным правам карыстаюцца пры гэтым асобы з вышэйшай сельска-гаспадарчай адукацыяй.

§ 11. Тэрытарыяльнае разьмяшчэньне раённага агранамічнага пэрсаналу па месцы сталага знаходжаньня праводзіцца райвыканкомам па ўзгадненьні з райаграномам і ў адпаведнасьці з наступнымі агульнымі правіламі: а) раённы аграном, аграном па калектывізацыі і капераваньні павінны мець сталае месца пражываньня ў раённым цэнтры—пры раённым аграпункце; б) для раённых спэцыялістаў пажадана мець сталае месца знаходжаньня пры раённым аграпункце, але ў залежнасьці ад мясцовых умоў паасобныя спэцыялістыя могуць мець сталае месцазнаходжаньне ў агравучастках, спэцыялізаваных па напрамку вядзеньня

сельскай гаспадаркі; в) вучастковыя аграномы, прымацаваныя да пэўных агравучасткаў, маюць месца сталага знаходжаньня ў межах свайго вучастку, пажадана ў найбольш буйных паселішчах, альбо пунктах комплекснай гнездавой працы. Праект тэрытарыяльнага разьмяшчэньня, складзены райвыканкомам, зацьвярджаецца АКРЗА.

§ 12. Уся праца раённага агранамічнага пэрсаналу земорганаў на кожны аперацыйны год прадугледжваецца ў агульна-раённым гадавым пляне па сельскай гаспадарцы. Агульна-раённы плян па сельскай гаспадарцы распрацоуваецца раённым аграномам пры ўдзеле ўсяго агранамічнага пэрсаналу раёну, прадстаўнікоў раённых гаспадарчых, капэрацыйных, культасьветных, грамадзкіх арганізацый і ўстаноў у адпаведнасьці: а) з агульнымі задачамі сельска-гаспадарчай палітыкі, б) з асаблівасьцямі і запатрабаваньнямі АКРЗА і НК Земляробства па мерапрыемствах і фінансаваньні іх; в) штатамі раённага пэрсаналу, зацьверджанымі АВК. Пасьля зацьверджаньня бюджэту агульна-раённы плян накіроўваецца для канчатковага зацьверджаньня ў АКРЗА. Зацьверджаны ў АКРЗА агульна-раённы плян абавязковы да выкананьня як для райвыканкомаў, так і для ўсіх устаноў, арганізацый і савецкіх гаспадарак раёну, праца якіх па сельскай гаспадарцы прадугледжана ў агульна-раённым пляне. Для кожнага з агравучасткаў складаецца асобны плян, які ўваходзіць у агульна-раённы плян у падагуленых лічбах і заданьнях. Праца раённага аграпэрсаналу, якая не прадугледжана агульна-раённым плянам па сельскай гаспадарцы, лічыцца не плянавай і не падлягае выкананьню з боку раённага аграпэрсаналу.

Праца аграпэрсаналу, якая мае характар агульна-грамадзкай працы, зьвязанай з дзейнасьцю аграпэрсаналу як грамадзкіх працаўнікоў, павінна ўлічвацца і вызначацца ў агульна-раённым пляне па сельскай гаспадарцы.

§ 13. Кожны аграраён павінен мець, як неабходны агрыкультурны асяродак, раённы агранамічны пункт, а пры наяўнасьці ў межах раёну агравучасткаў з прымацаваным да іх абслугоўваньня сталым пэрсаналам—вучастковыя аграпункты ў колькасьці, адпавядаючай колькасьці агравучасткаў.

§ 14. Месцазнаходжаньне раённага аграпункту прыстасоўваецца, як правіла, да раённага адміністрацыйна-гаспадарчага цэнтру, вучастковых аграпунктаў—да месца сталага знаходжаньня вучастковых аграномаў.

§ 15. У склад тыповага раённага аграпункту павінны ўваходзіць: а) будынак з кватэрамі і неабходнымі дапаможнымі службамі для аграпэрсаналу, а таксама для разьмяшчэньня раённага аграгабінэту,—музэю, сельска-гаспадарчай бібліятэкі з аўдыторыяй для правядзеньня гутарак, лекцый, курсаў з неабходным абсталяваньнем; б) памяшканьне для дэманстрацыйна-пракатнага зернаачышчальнага пункту; в) памяшканьні для ўтрыманьня разьездных коняй і неабходных запасаў фуражу. У склад вучастковага аграпункту павінна ўваходзіць: а) памяшканьне для кватэр вучастковага аграпэрсаналу і разьмяшчэньня вучастковага аграгабінэту з належным абсталяваньнем; б) памяшканьне для пракатнага зернаачышчальнага пункту.

Там, дзе гэта магчыма, за аграпунктам замацоўваецца невялікі зямельны вучастак (ня больш 2—3 гкт.) для пастаноўкі досьледаў па сельскай гаспадарцы; наяўнасьць гэтых вучасткаў зьяўляецца не абавязковым. Карыстаньне памяшканьнем аграпунктаў не па прызначэньні асобамі і ўстановамі, ня маючымі дачыненьня да складу раённай аграсеткі, катэгарычна забараняецца.

Праекты тыпавых аграпунктаў распрацоўваюцца НК Земляробства.

§ 16. Пры адсутнасьці пабудаваных аграпунктаў, аграпэрсанал забясьпечваецца кватэрамі альбо у натуры, за кошт райвыканкомаў, альбо праз выдачу кватэрных грошай.

§ 17. Транспартнымі сродкамі для пераездаў па службовых справах кожны агарапрацаўнік забясьпечваецца ў натуры; там, дзе забясьпечаньне сродкамі ў натуры па тых ці іншых умовах немагчыма, сродкі на перасоўку выдаюцца ў грашовай форме.

## III. Абавязкі раённага агранамічнага пэрсаналу.

§ 18. Раённы агроном зьяўляецца непасрэдным і адказным кіраўніком і арганізатарам усяе агранамічнае працы ў раёне, якая праводзіцца па агульна-раённаму пляну па сельскай гаспадарцы.

§ 19. Канкрэтна ў абавязкі раённага агранома ўваходзіць:

а) вывучэньне сельскай гаспадаркі раёну з мэтаю абгрунтаваньня і паглыбленьня працы па сельска-гаспадарчых і агранамічных мерапрыемствах.

б) распрацоўка агульна-раённага пляну па сельскай гаспадарцы і каштарысу да яго;

в) арганізацыя і кіраўніцтва працай усяго аграпэрсаналу раёну як земорганаў, так і с.-г. капярацыі і калгасных аб'яднаньняў па выкананьні заданьняў агульна-раённага пляну па сельскай гаспадарцы;

г) кантроль за выкананьнем заданьняў агульна-раённага пляну ўсімі раённымі ўстановамі, арганізацыямі, савецкімі гаспадаркамі і асобамі;

д) кантроль за рацыянальным скарыстаньнем сродкаў на с.-г. мерапрыемствы крэдытнымі т-вамі, згодна плянаў крэдытаваньня сельскай гаспадаркі;

е) непасрэдны ўдзел у працы па земляўпарадкаваньні ў раёне, праз распрацоўку плянаў гаспадарчага будаўніцтва для землякарыстальнікаў (складаньне аграпраектаў), нагляд за іх ажыцьцяўленьнем, дача неабходных пры земляўпарадкаваньні агранамічных заключэньняў, кансультацый;

ж) узгадненьне практычнай працы агранамічнага пэрсоналу земорганаў, з аднаго боку і агранамічна-інструктарскага пэрсаналу сельска-гаспадарчай капярацыі, каляктыўных аб'яднаньняў, саўгасаў у справе арганізацыі, аграабслугоўваньня калгасаў, саўгасаў, вытворча-капэрацыйных аб'яднаньняў і непасрэдны ўдзел у гэтай працы;

з) арганізацыя і непасрэдны ўдзел у правядзеньні сельска-гаспадарчых курсаў, выставак, сельска-гаспадарчых канфэрэнцый, лекцый і г. д.;

і) арганізацыя і правядзеньне раённых агранамічных нарад, удзел у пасяджэньнях райвыканкомаў, раённых канфэрэнцый, нарадах па пытаньнях сельскай гаспадаркі;

к) падрыхтоўка патрэбных матарыялаў дакладаў для раённых зьездаў саветаў, агранарад, канфэрэнцый аб становішчы сельскай гаспадаркі раёну і правядзеньні аграмерапрыемстваў;

л) арганізацыя бягучага падліку ўсяе агранамічнай працы ў раёне, складаньне і падача райвыканкому і АКРЗА справаздачнасьці па аграмерапрыемствах у вызначаныя тэрміны, у патрэбных выпадках дача райвыканкому вусных справаздач аб становішчы і правядзеньні аграпрацы ў раёне;

м) дача заключэньняў, кансультацый райвыканкому, арганізацыям, установам і асобам па сельска-гаспадарчых і агранамічных пытаньнях;

н) пад кіраўніцтвам дасьледчай станцыі арганізацыя і ўдзел у працы інстытуту сялян-дасьледчыкаў.

Раённы аграном, як правіла, ня мае самастойнага вучастку.

§ 20. У абавязкі вучастковых аграномаў уваходзіць:

а) вывучэньне сельскай гаспадаркі свайго вучастку па пляну і пад кіраўніцтвам раённага аграгома;

б) распрацоўка пляну працы па сельскай гаспадарцы ў адпаведнасьці і на падставе раённых плянаў;

в) непасрэднае выкананьне плянавых заданьняў аперацыйнага характару па вучастковаму пляну: па калектывізацыі, вытворчаму капераваньню, правядзеньні масавых агрыкультурных мерапрыемстваў, па палепшаньні тэхнікі сельскае гаспадаркі, распаўсюджваньні сельскагаспадарчых ведаў, удзелу ў земляўпарадкаваньні, складаньні аграпраектаў;

г) нагляд за выкананьнем установамі, арганізацыямі, савецкімі гаспадаркамі плянавых заданьняў, падлягаючых ажыцьцяўленьню на тэрыторыі агравучасткаў, згодна вучастковага і агульна-раённага пляну і дача неабходных зьвестак па гэтым пытаньні раённаму аграному;

д) удзел у нарадах, канфэрэнцыях, пасяджэньнях сельска-гаспадарчых камісій, сельсаветаў свайго вучастку, а таксама і ў раённых агранарадах;

е) дача заключэньняў, кансультацый сельсаветам, арганізацыям, установам, асобам па пытаньнях сельскай гаспадаркі, а таксама дапамаганьне ім у складаньні плянаў іх дзейнасьці па сельскай гаспадарцы;

ж) падлік правадзімай па вучастку агранамічнай працы і дача справаздачы раённаму аграному (райвыканкому);

§ 21. Аграном па калектывізацыі і капераваньні мае асноўнай задачай арганізацыю каляктыўных і вытворча-каперацыйных аб'яднаньняў і ўвязку працы аграпэрсаналу земорганаў, з аднаго боку, пэрсаналу калгаснай і каперацыйнай аграноміі, з другога боку, па арганізацыі і абслугоўваньні калектыўных і вытворча-каперацыйных аб'яднаньняў.

Канкрэтна ў яго абавязкі ўваходзіць:

а) складаньне вытворчых і арганізацыйных плянаў вытворчых каперацыйных аб'яднаньняў і калгасаў (там, дзе няма куставых аграномаў) і дапамога вучастковым аграномам і інструктарам сельска-гаспадарчай капярацыі ў складаньні гэтых плянаў для калгасаў, вытворча-каперацыйных аб'яднаньняў;

б) кансультацыя кіруючых органаў і членаў калгасаў, вытворчых каперацыйных аб'яднаньняў па пытаньнях арганізацыі, вядзеньня сельскай гаспадаркі ў калгасах і вытворчых каперацыйных аб'яднаньнях;

в) правядзеньне падрыхтоўчай працы па арганізацыі новых калгасаў і вытворчых каперацыйных аб'яднаньняў па даручэньні і пад кіраўніцтвам раённага агранома;

г) нагляд за выкананьнем складзеных плянаў па калгасах, каперацыйных аб'яднаньнях і за належным скарыстаньнем атрыманых па крэдыту сродкаў;

д) удзел у правядзеньні сельска-гаспадарчых курсаў для членаў калгасаў, каперацыйных аб'яднаньняў, у правядзеньні спэцыяльных нарад-канфэрэнцый;

е) дапамога ўстанаўленьня жывой сувязі паміж раённым аграномам, з аднаго боку, вучастковымі, куставымі аграномамі і інструктарамі сельска-гаспадарчай капярацыі, з другога боку, па пытаньнях сумеснай

практычнай працы па абслугоўваньні каляктыўных і каперацыйных аб'яднаньняў;

ж) падлік працы ўсяго агранамічнага пэрсаналу земорганаў у справе аграабслугоўваньня каляктыўных і каперацыйных аб'яднаньняў.

§ 22. У абавязкі інструктароў-спэцыялістаў па паасобных галінах сельскай гаспадаркі (жывёлагадоўлі, садоўніцтву, гародніцтву, пчалярству, тэхнічных культурах) уваходзіць арганізацыйная і тэхнічна-інструктарская праца па абслугоўваньні спэцыяльных галін сельскай гаспадаркі раёну ў адпаведнасьці з агульна-раённым плянам па сельскай гаспадарцы. Канкрэтна ў абавязкі раённых інструктароў уваходзіць:

а) вывучэньне ў адпаведнасьці з спэцыяльнасьцю інструктара становішча, зьмен і пэрспэктыў разьвіцьця паасобных галін сельскай гаспадаркі;

б) распрацоўка плянаў спэцыяльных мерапрыемстваў па абслугоўваньні паасобных галін сельскай гаспадаркі раёну;

в) кіраўніцтва і непасрэдны ўдзел у ажыцьцяўленьні спэцыяльных мерапрыемстваў па паасобных галінах; распаўсюджваньне спэцыяльных ведаў, арганізацыя злучпунктаў, племянных размножнікаў, пладовых выхавальнікаў, паказальных мерапрыемстваў, перапрацоўка сырцу спэцыяльных галін сельскай гаспадаркі;

г) садзейнічаньне арганізацыі і разьвіцьцю спэцыяльных відаў вытворчых каперацыйных аб'яднаньняў і абслугоўваньне спэцыяльных галін у каляктыўных гаспадарках і каперацыйных аб'яднаньнях;

д) нагляд за дзейнасьцю ўстаноў, арганізацый у часьці выкананьня ўскладзеных на іх абавязкаў па разьвіцьці спэцыяльных галін сельскай гаспадаркі;

е) удзел у нарадах, канфэрэнцыях, пасяджэньнях райвыканкомаў у якасьці дакладчыкаў па пытаньнях спэцыяльных галін;

ж) дача кансультацый, заключэньняў установам, арганізацыям, гаспадаркам, асобам па спэцыяльных пытаньнях тае ці іншае галіны;

з) вядзеньне бягучага падліку ў справаздачнасьці па спэцыяльных мерапрыемствах;

і) выкананьне паасобных заданьняў па спэцыяльнасьці па даручэньні райагранома і АКРЗА.

Праца раённых інструктароў-спэцыялістаў непасрэдна рэгулюецца раённым аграномам.

## IV. Правы раённага агранамічнага пэрсаналу зямельных органаў.

§ 23. Агранамічны раённы пэрсанал: райаграномы, вучастковы агроном, агроном па калектывізацыі і каперваньні і раённыя спэцыялістыя карыстаюцца наступнымі правамі:

а) дарэмна карыстаюцца кватэраю з апалам і асьвятленьнем у агрпунктах, памяшканьнях, адведзеных райвыканкомам, альбо на атрыманьне сродкаў на наём кватэр, згодна § 16.

б) забясьпечваюцца неабходнымі для службовых пераездаў транспартнымі сродкамі, згодна § 17;

в) атрымоўваюць спэцвопраткі па нормах НК Працы;

г) атрымоўваюць 3 пэрыадчных прыбаўкі да асноўнай стаўкі ў разьмеры 10 проц. за кожныя 3 гады працы ў раёне, пачынаючы з 1-га студзеня 1928 г.;

д) атрымоўваюць навуковыя камандыроўкі праз кожныя 5 год працы ў раёнах тэрмінам да 3-х месяцаў за кошт каштарысу НКЗема з захаваньнем заработнай платы і кватэр, а таксама атрымоўваюць навукова-вытворчыя камандыроўкі за кошт мясцовага бюджэту;

е) атрымоўваюць прэміі за якасныя і колькасныя дасягненьні ў працы, згодна спэцыяльнай інструкцыі;

ж) атрымоўваюць штогод чарговыя адпачынкі на 1 месяц;

з) аслабаняюцца ад працы, непасрэдна не зьвязанай з плянавымі заданьнямі, а іменна: па падліку аб'ектаў абкладаньня па сельгаспадатку, па падліку плошчаў па вымачках, выправаньнях, градабіцьцях, па ўдзелу ў зямельна-судовых камісіях па справах неземляўпарадчага парадку, па падачы справаздач і зьвестак, не прадугледжаных сыстэмай справаздачнасьці НКЗ, па зьбіраньні статыстычных зьвестак, па запаўненьні блянкаў анкет розных абсьледваньняў і наогул працы, не прадугледжанай плянам НКЗ і АКРЗА.

§ 24. Раённы агроном, як адказны за агранамічную працу ўсяго раёну, мае права запатрабаваць праз райвыканком ад усіх раённых установаў і арганізацый, савецкіх гаспадарак, аграномаў, калгасаў і інструктароў сельска-гаспадарчай кааперацыі, працуючых у раёне, пляны іх дзейнасьці па сельскай гаспадарцы ў пачатку аперацыйнага году і справаздачы па выкананьні гэтых плянаў пасьля ўключэньня іх у агульна-раённы плян па сельскай гаспадарцы ў канцы аперацыйнага году.

Увесь раённы пэрсанал земорганаў мае права праверкі становішча выкананьня на працягу году агрыкультурных мерапрыемстваў, прадугледжаных у агульна-раённых плянах, усімі раённымі ўстановамі, арганізацыямі, савецкімі, калектыўнымі гаспадаркамі і кааперацыйнымі аб'яднаньнямі.

## V. Форма сувязі агранамічнага пэрсаналу раёну паміж сабой і з іншымі арганізацыямі і ўстановамі раёну.

§ 25. Сувязь агранамічнага пэрсаналу земорганаў у раёне паміж сабой ажыцьцяўляецца праз:

а) пэрыядычнае скліканьне раённых агранамічных нарад ня менш 2 раз у год (абавязкова ў пачатку і канцы аперацыйнага году), для ўдзелу ў нарадах запрашаецца аграпэрсанал калгасаў, інструктары сельска-гаспадарчай кааперацыі, загадчыкі саўгасаў, сельска-гаспадарчых школ, сяляне-дасьледчыкі, прадстаўнікі раённых дасьледчых станцый, кааперацыйных і калектыўных аб'яднаньняў раёну;

б) сыстэматычнае наведваньне раённым аграномам агравучасткаў, з аднаго боку, і вучастковым аграпэрсаналам раённага агронома, з другога боку.

§ 26. Формамі сувязі раённага аграпэрсаналу земорганаў з пэрсаналам саўгасаў, калгаснай і кааперацыйнай агранаміі ў раёне зьяўляюцца:

а) узаемнае прадстаўніцтва і ўдзел у раённых агранарадах, вытворчых нарадах пры саўгасах, калгасах, спэцыяльных кааперацыйных нарадах;

б) прадстаўленьне раённаму аграному загадчыкамі саўгасаў, групавымі аграномамі, інструктарамі с.-г. кааперацыі, якія абслугоўваюць калгасныя і кааперацыйныя аб'яднаньні ў межах раёну, плянаў свае агрыкультурнае працы і справаздач аб выкананьні іх, з атрыманьнем у сваю чаргу ад раённага агронома агульна-раённых плянаў, зацьверджаных АКРЗА;

в) узаемнае наведваньне на працягу аперацыйнага году непасрэдна па месцы працы для высьвятленьня тых ці іншых пытаньняў сумеснай дзейнасьці па абслугоўваньні і арганізацыі кааперацыйных, калектыўных аб'яднаньняў і саўгасаў.